© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (2104) Год XLI Беласток 8 верасня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

## „Варта пісаць вершы і кахаць жыццё"

— Валодзік, табе пяцьдзесят пяць, юбілей, і як ты з далечыні столькі гадоў адчуваеш, што было ў табе найпершае: чыстая цяга да паэтычнага слова, ці — перш за ўсё — жаданне выказаць вершам нейкую сваю, уласную, праўду аб свеце, жыцці?

**Уладзімір Гайдук**: — *Так, Сакраце, калі я пачынаў пісаць вершы, мне было дзевяць гадоў.*

*Гэта была толькі чыстая цяга да роднага слова, да паэзіі.*

*Роздумы прыйшлі пазней.*

— Паэт стварае паэзію, але паэзія стварае і паэта. Ці не здаецца табе, час-часом, што творчасць прадвызначыла твой жыццёвы лёс? Творчасць у спецыфічна тваім разуменні.

**У. Г.**: — *Лірычная паэзія не паддаецца модзе, таму не так хутка мінае.*

*Мой жыццёвы шлях вызначыла Матуля.*

*Свавольнага лёсу лепш не кранаць.*

— Пішаш мала, прынамсі каторы ўжо год я не бачу твайго ў друку. Як гэта разумець: імкнешся да ідэальнае выпрацоўкі фразы, вобраза, ці банальна не хапае табе часу ды сілаў ад натруджанасці на гаспадарцы?

**У. Г.**: — *Пішу тады, калі прыходзіць натхненне.*

*Так ужо ў нас склалася, што была „мама і цэнзура"... ну і паяўляліся розныя рэдактары.*

*Некаторым рэдактарам проста рукі свярбелі, каб мае вершы папраўляць, перарабляць, скарачаць. А былі і такія рэдактары, што адкрыта пісалі: — прышлі многа, каб мог крыху з чаго выбраць.*

*Прызнайся, Сакрат, з рукою на сэрцы, ці і ты так не рабіў? Вось і бачыш; пісаць то яшчэ пішу, але ўжо амаль не пасылаю. І пэўна добра, бо і „ваўкі сытыя і авечкі цэлыя"...*

— Раз ты, Валодзік, памятаеш пра мае благія ўчынкі, значыць, яны былі ў сапраўднасці... Прыкра мне. Але дарэчы: існуе літаратурны жарт, што паэт неабавязкова павінен пісаць вершы, даволі яму жыць паэтычна... Хоць я, асабіста, лічу, што гэта толькі жарт, які нельга прыняць за праўду, бо гучыць тое страшэнна эгаістычна! Якая твая думка на гэты конт?

**У. Г.**: — *Гэта ўсё кукуруза!*



*Мастацтва не існуе без творчага працэсу. У паэтаў ён існуе заўсёды, але выяўляецца толькі ў пэўных спрыяючых акалічнасцях. Душы не загадаеш.*

— Пра цябе немагчыма што-колечы прачытаць у літаратурных даведніках, энцыклапедыях. Існуеш трохі як міф, эфемерная легенда. Дык раскажы крыху сам пра сябе, хаця б маладому пакаленню чытачоў, якому цікава ведаць нешта пра самога аўтара вершаў.

**У. Г.**: — *Думай, што хочаш, але я існую рэальна.*

*Вось у мінулым годзе, 24 жніўня, падчас вандроўкі „Жывога Слова" з Мінска, Маруська Аліфер (родам з Ляўкова) заспявала песню на словы майго верша „Я не вінаваты", — так і павесялеў.*

*Варта пісаць вершы і кахаць*
*жыццё.*
*Гэта найдаражэйшы Божы дар.*

Гутарыў
**Сакрат Яновіч**

**З выпадку 55-годдзя паэта Уладзіміра ГАЙДУКА сардэчна віншуем Юбіляра і зычым Яму добрага здароўя.**

***Сябры Літаратурнага аб'яднання „БЕЛАВЕЖА"***

**Паважаны Сакраце,**
**з нагоды твайго дня нараджэння зычу Табе высокага неба ў Крынках, лагоды часу. Няхай да Тваёй „даліны поўнай лёсу" дапішацца музыка нябёс.**

***Старшыня Літаратурнага аб'яднання „Белавежа"***
***Ян Чыквін***

Мікола Ваўранюк

## У краіне вугалю і сталі

**У малодшых класах пачатковай школы штогод пад ёлку клеілі мы шахцёрскія шапкі з перакрыжаванымі молатам і кайлом ды з пушыстым плюмажом. Разам з усёй краінай святкавалі Барбурку. Было гэта ў сямідзесятых, калі геркаўская Польшча набіралася сілы, а людзі багацелі. Рухавіком развіцця эканомікі дзяржавы была Сілезія (Шлёнск). Цяпер, аказваецца, да кожнай тоны дабытага вугалю трэба даплачваць. Дэградаваныя да ролі звычайных рабацяг шахцёры што і раз арганізуюць пратэсты, забастоўкі, нават маршы на Варшаву.**

Цывілізацыйную адрозненасць першы раз заўважаем з машыны каля Чанстаховы — паабапал хуткай магістралі Варшава—Катавіцы групамі выстраіліся даўганогія, загарэлыя, сціпла апранутыя прастытуткі. Такая наяўнасць фрывольных паводзін, трэба сказаць, уражвае.

Яшчэ больш уражвае інтэнсіўнасць дарожных работ. Хто хаця крыху падарожнічае, ведае, якія кепскія ў Польшчы дарогі: вузкія, пакручастыя, не абмінаюць мясцовасцей. Усе змены, у найлепшым выпадку, зводзяцца да пракладкі новага пласта асфальту. А ў Катавіцах і ваколіцы якраз на дарогах працуюць і то як! Пашыраюць, выпрошчваюць, пракладаюць шляхі хуткага руху. Праўда, цяпер гэта трохі ўскладняе падарожжа, але затое якія перспектывы на будучыню. А ў нас?

Узгадаваным сярод зялёных палёў і лясоў Беласточчыны, Шлёнск уяўляецца брудны, задымленай, нечалавечай зямлёй. Па вуліцах, разросшыхся ў адзін малох індустрыяльных гарадоў, павінны хадзіць чорныя ад вугальнага пылу шахцёры ды бледныя ад нястачы сонца іхнія жонкі і дзеці. Ні там, здаецца, вады чыстай, ні травы зялёнай, ані сіняга неба.

Тым часам вітае нас эканамічна развітая краіна, густа заселеная, дагледжаная, я б сказаў, элегантная. У Катавіцах шмат зелені, а калі ехаць на поўдзень — у бок Шлёнскага Бэскіду, дык наогул развітваешся са сваімі ранейшымі ўяўленнямі. Маляўнічыя пагоркі, абсеяныя палі, садкі пры хатах (спелі ў іх якраз слівы). Уся індустрыя як быццам спецыяльна схаваная ад вока турыста, часамі толькі відно характэрнае кола над шахтай або коміны нейкай гуты ці цеплаэлектрастанцыі. Ля шашы многа матэляў, рэстаранаў, добра забяспечаных санітарнымі ўмовамі паркінгаў.

Нам з жонкай спадабалася най-

*(працяг на стар. 3)*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Мы прачыталі

*Co dziesiąty mężczyzna w Polsce nie dożywa czterdziestu lat. Szansa piętnastoletniego chłopca na dożycie 60 lat jest mniejsza niż jego rówieśnika w Chinach, Indiach lub większości krajów Ameryki Łacińskiej. Stan zdrowia mężczyzn z pierwszej połowy lat 90. jest gorszy niż tuż po wojnie. Pod tym względem sytuacja w Polsce jest jedynie korzystniejsza od obserwowanej w krajach subsaharyjskiej Afryki.*

*Prawie co drugi młody człowiek umiera w Polsce z powodu chorób układu krążenia, u co trzeciego przyczyną zgonu są nowotwory złośliwe, a u co piątego — czynniki zewnętrzne, m.in. wypadki, zatrucia, samobójstwa. Umiera pokolenie, które zachłysnęło się wysokim poziomem życia. Byli młodzi, odważni. Założyli dobrze prosperujące interesy, które pozwoliły im wybudować dom, wyposażyć go, jadać w dobrych restauracjach. Nie potrafią z niczego zrezygnować. Żyją w ciągłym stresie i mają nieustanne poczucie zagrożenia.*

*Wprost, nr 33*

Узрастае колькасць багатых удоваў.

* * *

*W Grodnie zostanie otwarta szkoła polska, budowana w rekordowym tempie przez jedno z miejscowych przedsiębiorstw. Inwestycję finansuje w całości Wspólnota Polska, która wydała do tej pory 1 mln 200 tysięcy dolarów i dołoży jeszcze 300 tysięcy. Rząd Białorusi przekazał 62 tysiące dolarów na wyposażenie szkoły.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 193*

Паляки на Гродзеншчыне сваю будучыню бачаць у школах, беларусы на Беласточчыне — у фэстах.

* * *

*Prezydent Białorusi Aleksander Łukaszenko nie chce już współpracować z przeszkadzającymi mu partiami politycznymi, Radą Najwyższą i Sądem Konstytucyjnym. Postanowił z tym skończyć raz na zawsze i przeprowadzić referendum o zmianach w konstytucji. Proponuje ograniczyć rolę parlamentu i Sądu Konstytucyjnego. Prezydent wyznaczałby połowę składu parlamentu i połowę sędziów SK. Chciałby także rządzić przez następne dwie kadencje wydłużone z pięciu do siedmiu lat.*

*Gazeta Wyborcza, nr 194*

І слушна, чаму шкадаваць сабе любімага занятку. Шчаслівы народ, які мае такога манарха. Ласкава дазваляе ён нават на існаванне парламента і канстытуцыі. Сапраўдны дэмакрат, слухае толькі народа і нікога больш. Усё робіць таксама ад імя народа і для народа.

* * *

*У беларускай гістарыяграфіі выходзіць новая навуковая школа з прынцыпова іншымі падыходамі і метадалогіяй у параўнанні з той, што існавала апошнія 3—4 гады. Ідзе проста вяртанне да той практыкі, калі гісторыкі абслугоўвалі палітыку таталітарнай сістэмы.*

*Голас Радзімы, н-р 33*

У гістарыяграфіі парадак таксама павінен быць. Гісторыкі павінны пісаць так, як павінна быць, а не як было.

* * *

*Na wszystkich polskich uczelniach są niby wykładowcy, a w rzeczywistości werbownicy i łowcy głów dla wywiadu i kontrwywiadu. Wypatrują studentów, a od 1992 r. studentek, które mają odpowiednie poglądy i łatwo się uczą.*

*Polityka, nr 31*

Першыя грошы маладыя даносчыкі пэўна атрымліваюць за інфармацыі пра погляды сваіх калегаў.

* * *

*Wszystkie ważniejsze polskie drogi podzielono już na odcinki normalne i „seksspecjalne". Na kierowców podróżujących przez Polskę czeka dziesięć tysięcy „parkingowych" prostytutek. Stojące przy polskich drogach dziewczyny — zdaniem zagranicznych kierowców — są rekompensatą za zaniedbane, źle oznakowane drogi, kolejki graniczne i brak kultury. Dla prostytutek przydrożne parkingi to przedszkole i dom starców jednocześnie: najmłodsze zaczynają pracę, najstarsze tam właśnie kończą, gdy nie mogą się już pokazać w bardziej eleganckich miejscach. Dla kierowców jest to atrakcja turystyczna: nigdzie poza Europą Wschodnią nie można znaleźć tak bogatej oferty seksualnej.*

*Wprost, nr 33*

* * *

*Kandydatek do pracy w agencjach towarzyskich jest tak dużo, że stoją w kolejce, a właściciele mogą wybierać. To się już zrobił zawód. Dziewczyny bywają nowicjuszkami, ale w większości z jakimś stażem. Zawsze są przyjmowane na okres próbny, za niższe wynagrodzenie, dla sprawdzenia. Nierzadko dziewczyny są mężatkami, a bywa, że do pracy wieczorem przywozi mąż, a rano odbiera.*

*Polityka, nr 34*

* * *

*Jestem nieco puszystą wdową. Mierzę 164 cm. Czekam na poważne oferty.*

*Kurier Poranny, nr 202*

# З мінулага тыдня

**Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык** — лідэры Беларускага народнага фронту „Адраджэньне" — атрымалі палітычнае прыстанішча ў Злучаных Штатах Амерыкі. Абодва дзеячы звярнуліся з такой просьбай 31 ліпеня г.г., баючыся праследаванняў з боку беларускіх спецслужбаў. Рашэнне аб аказанні прыстанішча прыняла Амерыканская іміграцыйная управа ў Арлінгтоне.

**Міхал Вашкевіч** — беларускі дысідэнт — звярнуўся да прэзідэнта Балгарыі **Жэлю Жэлева** з просьбай аказаць яму палітычнае прыстанішча. Вашкевіч працаваў у Менску уласным карэспандэнтам маскоўскага Хрысціянскага інфармацыйнага агенцтва і быў дарадчыкам апазіцыйнай Хрысціянска-дэмакратычнай кааліцыі „Адзінства". На яго думку, рэжым прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі** з'яўляецца таталітарным рэжымам гітлераўскага тыпу, а сам прэзідэнт не хаваецца са сваімі сімпатыямі для **Адольфа Гітлера**.

**Праекты новых праграмных асноў школьніцтва** будуць гатовы да канца снежня г.г. Праекты распрацоўваюцца ў дзвюх версіях: для цяперашняй школьнай сістэмы і на выпадак, калі б быў ухвалены закон аб увядзенні школьнага абавязку з шостага года жыцця. Міністр адукацыі **Ежы Вятр** заявіў, што новыя праграмныя асновы трапяць у школы перад пачаткам 1997/1998 навучальнага года.

**2800 беспрацоўных** у краіне атрымалі з пачаткам новага школьнага года занятак пры наглядзе за дзецьмі на вуліцы. Краёвая ўстанова па працаўладкаванні прызначыла кожнаму такому ахоўніку 427 зл. у месяц. Гэтыя асобы, падрыхтаваныя паліцыяй, пераводзяць дзяцей праз вуліцу, ахоўваюць школы ад непажаданых асоб, спадарожнічаюць школьным экскурсіям. Ахоўнікі атрымалі спецвопратку ў выглядзе жоўта-аранжавых палярын і знак „стоп".

**Зэнон Пуцілоўскі** — шэф Беластоцкай кінасеткі — выбраны ўправай Польскага тэлебачання кандыдатам на кіраўніка тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку. У сувязі са з'яўленнем у друку сцвярджэння, што ён — „працаўнік тварэння асобных перадач для нацыянальных меншасцей на іх мовах", З. Пуцілоўскі апублікаваў абвяржэнне наступнага зместу: „Будучы прыхільнікам пошукаў формулы, якая аб'ядноўвае, а не дзеліць, я не з'яўляюся працаўнікам тэлеперадач аб нацыянальных меншасцях на іх мовах. Тэкст дыялогаў паказваецца тады на экране адначасна на польскай мове".

**Гайнаўскія лекары**, якія дзяжураць у мясцоваай станцыі хуткай дапамогі, накіравалі ў Ваяводскую станцыю хуткай дапамогі ультыматыўнае пісьмо, у якім пішуць: „Мы празмерна абцяжараны працай. Ствараe гэта пагрозу для жыцця і здароўя пацыяентаў і для нас саміх. Наша стомленасць і сарамлівая нізкія тарыфныя стаўкі давядуць да таго, што лекары неўзабаве адмовяцца ад дзяжурстваў". Медыкі наракаюць яшчэ, што ў Гайнаўцы працуюць толькі два дзяжурныя спецыялісты, калі ў іншых станцыях — па тры. Дырэктар Ваяводскай станцыі запэўніў, што калі гайнаўская станцыя будзе пераведзена ў новы шпітальны будынак, тады будзе распрацавана іншая сістэма працы мясцовай хуткай дапамогі. Плануецца таксама перадача Гайнаўцы рэанімацыйнай карэты хуткай дапамогі, але пакуль што няма на гэта грошай.

**У Бельску-Падляшскім** здадзена ў карыстанне сучасную лічбавую тэлефонную станцыю, у сувязі з чым памяняліся нумары тэлефонных абанентаў — зараз яны шасцізначныя.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Размова ў чарзе перад мытняй – рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- Уладзімір Сідарук распытвае як жылося „пры камуне".
- Вандроўка „Жывога Слова" па Беласточчыне.

# Весткі з Беларусі

**Свінячая нарада**

Не можа лічыць сябе незалежнай тая дзяржава, якая няздольная пракарміць народ, — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на нарадзе па вытворчасці свініны. На нарадзе былі заслуханы інфармацыі міністра гаспадаркі і харчавання аб праекце рэспубліканскай праграмы па развіццю вытворчасці свініны да 2000 года, а таксама паведамленні іншых кіраўнікоў аграпрамысловага комплексу.

**Давыбары — неабходныя**

Сёння буйныя прамысловыя цэнтры рэспублікі амаль не маюць сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце, — паведаміў выконваючы абавязкі старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Жук. Напрыклад, горад Гродна не прадстаўлены ні адным дэпутатам. У Менску трэба выбраць 23 парламентарыі. Усяго па Беларусі без дэпутатаў засталася 61 акруга, а гэта значыць, што амаль паўтары мільёна грамадзян не маюць сваіх прадстаўнікоў у вышэйшым заканадаўчым органе краіны.

**Новыя пашпарты**

У канцы жніўня пачаўся выпуск новых пашпартоў, — паведаміў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад рабочымі Вытворчага аб'яднання „Азот" у Гродне. Новы пашпарт будзе адначасова агульнаграмадзянскім і замежным. Нягледзячы на тое, што вырабляць яго будуць на айчынных прадпрыемствах, ступень абароны пашпарта надзвычай высокая, а яго сабекошт — толькі 40 цэнтаў. Пашпарты новага ўзору першымі атрымаюць маладыя грамадзяне беларускай дзяржавы.

**Тандэтная мэбля**

Згодна з распараджэннем Дзяржаўнага мытнага камітэта з 12 жніўня г.г. уся мэбля, якая перавозіцца праз мяжу фізічнымі асобамі ў супраўадным багажы, абкладаецца мытнай пошлінай у памеры 50%. Зроблена гэта дзеля выканання пастановы Кабінета Міністраў, прычым ранейшая 30-працэнтная пошліна адмяняецца. Магчыма, гэты захад дапаможа прыпыніць паток не заўсёды якаснай мэблі з Польшчы, на пастаўцы якой нажываліся прадпрымальныя грамадзяне.

**Дапамога японцаў**

У Беларусі па запрашэнню Сацыяльна-экалагічнага саюза „Чарнобыль" пабывала дэлегацыя японскага руху „У дапамогу Чарнобылю", у складзе якой лекары, журналісты, пісьменнікі, студэнты — 22 чалавекі. Мэта візіту — гуманітарная дапамога і культурны абмен.

**Ваенная інспекцыя**

Вялікая інспекцыйная праверка прайшла на 61 Авіяцыйнай базе ў Баранавічах. Прадстаўнікі 16 дзяржаў, сярод якіх Расея, Польшча і ЗША, па запрашэнню Нацыянальнага агенцтва Беларусі па кантролю і інспекцыі, наведалі беларускіх ваенных лётчыкаў, пазнаёміліся з дзейнасцю базы, агледзелі яе ўзбраенне і тэхніку. На заканчэнне адбылася прэс-канферэнцыя, на якой прадстаўнік Еўрапейскага камандавання Амерыканскіх Узброеных Сіл адзначыў, што гэты візіт у Беларусь быў вельмі добра падрыхтаваны і даў магчымасць замежным вайскоўцам пераканацца ў высокім прафесіяналізме беларускай арміі.

**Шчасная ў Наваполацку**

Новая экспазіцыя твораў вядомай беларускай мастачкі Нінэль Шчаснай адкрылася ў гарадской выставачнай зале ў Наваполацку. А каб больш поўна наваполачане пазнаёміліся з творчасцю мастачкі, з 1 верасня яе карціны экспанаваліся ў выставачнай зале Полацкага універсітэта.

**Факсіміле рэліквіі**

Да выдання яшчэ адной нацыянальнай рэліквіі прыступіць выдавецтва „Беларуская Энцыкладедыя". Яе стараннем выйдзе факсіміле „Малой падарожнай кніжыцы" Францыска Скарыны. Упершыню твор быў надрукаваны ў 1521 г. у Вільні. Сёння гэты славуты помнік агульнаславянскага пісьменства захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Капенгагене. Беларускія гісторыкі зрабілі копію з гэтай кнігі і ў будучым годзе выйдзе яна масавым тыражом.

**Уклад КДБ у літаратуру**

Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Уладзімір Мацкевіч перадаў паслу Украіны Уладзіміру Жалібу арыгінал паэтычнага аўтографа класіка украінскай літаратуры Уладзіміра Сасюры, напісаны ім летам 1927 г. у Адэсе. Аўтограф быў знойдзены ў архівах КДБ Беларусі і ў арыгінальным выглядзе будзе паказаны шырокай публіцы ўпершыню.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Сем гадоў блукання

**Пра бежанства расказвае Пятро КІСЕЛЬ — 89-гадовы жыхар вёскі Чорная-Вялікая Гродзіскай гміны.**

Летам 1915 году чацвёртая частка жыхароў нашай вёскі падалася ў бежанства, паверыўшы прапагандзе аб зверствах немцаў над рускім народам. Было гэта перад жнівом. Калі вёску пакінулі больш заможныя сяляне, тады ўцякаць рашылася і наша сям'я. Бацька пагрузіў неабходную маёмасць на фурманку і з самога ранку сталі мы ехаць на ўсход. Пасля некалькіх кіламетраў наш каняка да такой ступені выбіўся з сіл, што далейшае падарожжа стала немагчымым. Пакінулі мы тады фурманку з часткай дабра ў яўрэя Моські ў Бжазінах, а самі, закінуўшы клункі на плечы, пайшлі ў напрамку чыгункі. Вечарам былі мы ўжо ў Кляшчэлях. На наша шчасце, сустрэлі мы там дывізійны абоз 51 Дывізіі. Салдаты заапекаваліся некалькімі сем'ямі бездапаможных бежанцаў, узялі нас на падводы і зябяспечылі харчамі. Абоз ехаў у Ліду.

Мне, наймалодшаму ў сям'і, было тады восем гадоў. З бацькамі ехалі дзве дарослыя ўжо сястры і два браты падлеткі. Салдаты спачувалі нам. Адзін фельдфебель выслаў сёстры ў Петраград да сваіх знаёмых з пісьмом, у якім рэкамендаваў уладкаваць іх на работу. Адна з іх працавала там пакаёўкай, другая — кухаркай.

У Лідзе абоз атрымаў загад вярнуцца на лінію фронту. Нас накіравалі ў Тамбоўскую губерню, але мы перасяліся ў цягнік, які ехаў у Калугу. Сталася так таму, што ў гэтым транспарце ехаў валасны пісар з Гродзіска, і бацька меркаваў, што ён, адукаваны чалавек, дапаможа нам хутчэй вярнуцца на радзіму пасля заканчэння вайны. У падарожжы ўспыхнула эпідэмія халеры. Бацька для дэзінфекцыі страўніка купіў гарэлкі, якую мы ўсе пілі ў якасці лякарства. У Калузе бежанцаў чакалі падводы. Завезлі нас у аддалены на 30 вёрст ад горада маёнтак графа Аляксея Львовіча Талстога, старэйшага сына вядомага пісьменніка. Спачатку бежанцам жылося добра. Даставалі мы па тры рублі на душу ў месяц дапамогі, а да таго яшчэ дармовую бялізну. Уласнік маёнтка прабываў тады ў Амерыцы і ўсім загадвала яго жонка, княжна Софія Нікалаеўна. Яна таксама ўзначальвала губернскую дабрачынную арганізацыю па аказанню дапамогі бежанцам, так што нам нічога не бракавала. Дарослыя хадзілі яшчэ працаваць у маёнтак. Бацька наш быў майстар на ўсе рукі і дадаткова зарабляў, займаючыся то шавецтвам, то кравецтвам, а часам і муляркай.



Бежанскія дзеці хадзілі ў школу. Ужо восенню 1915 г. мы з братам сталі вучыцца ў пяцікласным земскім пачатковым вучылішчы, якое знаходзілася ў 200 метрах ад маёнтка. Дасталі мы дармовыя падручнікі і сшыткі. Вядома, спачатку ў школе не абышлося і без моўных недаразуменняў. Памятаю, што калі вывучалі мы алфавіт, настаўнік загадаў „написать полуторы строчки", а я, не разумеючы гэтага слова, напісаў паўтары старонкі. Канікулы пачыналіся там у маі і цягнуліся чатыры месяцы. Вучыўся я добра і ў 1920 г. паспяхова закончыў вучылішча.

Пасля рэвалюцыі 1917 года пачаліся беспарадкі, настаў голад. Бальшавікі канфіскавалі маёнтак, а Софія Нікалаеўна Талстая з сям'ёй уцякла на Захад і пасля жыла ў Францыі. Маёнткам стала адміністраваць Жыздра-Вяземская жалезная дарога, якая арганізавала ў ім саўгас. Цяжкая матэрыяльная сітуацыя прымусіла нас шукаць лепшай долі. Тады агітавалі выязджаць у Сібір, дзе можна было атрымаць нават па 5 гектараў зямлі на душу. У лістападзе 1920 г. паехалі мы ў Омскую вобласць. Пасяліліся ў пасёлку Белавусаўка, 120 вёрст за Омскам. Мелі мы там дзве каровы, каня, некалькі свіней. Пасеялі збожжа, але ўраджай атрымаўся слабы. Не ведалі мы, як трэба абрабляць сібірскую зямлю ды не мелі для гэтага адпаведных прылад. Тэхніка апрацоўкі зямлі была тут іншая, чым у нас, пад Сямятычамі. На другі год бальшавікі пачалі забіраць збожжа, абкладваць падаткамі. Памятаю, што трэба было здаць сем кілаграмаў масла ў год ад аднай каровы. Было нас тады сем асоб. Стала так цяжка, што трэба было прадаць адну карову.

Увесь час мы раздумвалі, як вярнуцца на радзіму. Напрыканцы жніўня 1922 г. прыйшла вестка, што можам збірацца дамоў. Вярталіся мы цягніком. У Маскве трымалі нас на запасных пуцях амаль тыдзень. Прыходзілі да нас нейкія агітатары і пераконвалі, што ў Польшчы цяжкая сітуацыя і што нічога добрага нас там не чакае. У дарозе маці захварэла на дызентэрыю і забралі яе ў шпіталь. Відаць, там яна, гаротніца, і памерла, бо не вярнулася да нас. Расталіся мы назаўсёды і з братам Міхалам, якому было тады 18 гадоў. Выйшаў ён на вакзал у Баранавічах і не паспеў на цягнік. Потым напісаў ён нам, што знаходзіцца ў бальніцы ў Беластоку. Найстарэйшы брат Ян паехаў за ім, але аказалася, што ў жывых яго ўжо не было.

Вярнуліся мы ў вёску ў верасні 1922 года. Захаваліся хата і старая стадола, так што было дзе нам пасяліцца. Хлявы за сем гадоў разваліліся. Расцягнулі таксама пакінутую намі рухомасць. Тыдзень пасля вяртання бацька захварэў на ліхаманку і памёр. Засталіся мы толькі з братам. Вясною 1923 года Яна забралі ў войска, а я на цэлыя шэсць гадоў, пакуль і мяне не прызвалі ў армію, пайшоў служыць парабкам.

Запісаў **Віталь Луба**

# У краіне вугалю і сталі

*(працяг са стар. 1)*

больш архітэктура шлёнскіх асабнякоў і ўпарадкаванасць панадворкаў вакол іх. Усе дамы мураваныя, але характэрныя нашым ваколіцам пачварныя кубікі сямідзесятых гадоў — там у меншасці. Дамінуюць такія з двухскатнымі дахамі, ганачкамі, балконамі. Атынкаваныя ў белы колер, упісваюцца яны ў зелень травы і фруктовых дрэў. У гародчыках цуд-кветкі! (У шматпавярховых дамах каляровымі кветкамі абсаджаны балконы.)

У асабняках пераважна жывуць аўтахтоны — „ганысы". Прыехаўшыя з усяе Польшчы за хлебам „гороле", або інакш „лапанцы", засяляюць шматпавярхавікі. Але і яны пасля некалькіх дзесяткаў гадоў набіраюцца шлёнскай акуратнасці, набываюць нават цвёрды мясцовы акцэнт, якога не выкаранілі звышпільныя настаўнікі-уніфікатары. Аказваецца, не толькі ў нас ішло змаганне за адзінаправільнае польскае вымаўленне, але і шлёнскаму дыялекту дасталася. А каб канчаткова развітацца з германскім мінулым, у школах можна было вучыцца любой мове, абы толькі не нямецкай.

Усё роўна, ад гісторыі нідзе не дзенешся. Відавочная яна хаця б у архітэктуры і планіроўцы гарадоў, асабліва тых меншых, якія зберaглі свой ранейшы характар. Рынак і замак у Пшчыне ставяць гэты гарадок у рад найпрыгажэйшых у Польшчы. Здаецца, нікому ўжо не мяшае, што будавалі яго немцы.

Варта паглядзець таксама паркі ў курортных мясцовасцях. Нават калі перасталі яны быць курортамі, як Ястшэмбе-Здруй, захавалі сваю прыгажосць, своеасаблівы клімат.

* * *

Калі сядзем над картай Еўропы, з зайздрасцю канстатуем факт, што са Шлёнска ўсюды блізка. У жамчужыну цэнтральнаеўрапейскай архітэктуры, сталіцу мяшчанскай літаратуры і піва — Прагу — бліжэй адтуль, чымсьці нам да іх. А там ужо і Вена, і Будапешт, і толькі крыху далей Мюнхен, і Швейцарыя, і Харватыя, і Італія. Усюды можна за дзень даехаць на машыне. Не кажучы ўжо пра тое, што пад самым бокам Кракаў, Закапанэ, горы Карпаты і Судэты.

„А вам блізка ў Беларусь, на Літву", — пачую я там. Так, толькі без вялікага сентыменту няма туды чаго ехаць. От так, скажам, як у Чэхію — на абед, па піва, па „Бэхераўку". Калі пагранічнік не ўзвышаецца над табой неприступным бажком, а мытнік толькі зверне ўвагу, што на машыне няма значка „PL".

Пры нагодзе замежных выездаў, нават тых блізкіх, робіш параўнанні, можаш больш аб'ектыўна глянуць на тое, што вакол цябе. Дык вось, калі супаставіць Шлёнск і Чэхію вакол Астравы — падобныя шахцёрскія рэгіёны — параўнанне атрымаецца на карысць першага. На польскім баку больш прызнакаў багацця: лепшыя дамы, больш аўтамашын, больш тавараў у крамах. Астрава — вельмі прыгожы горад — толькі пачынае набываць капіталістычнае ззянне. Нават у старым цэнтры мнагавата яшчэ сацыялістычнай шэрасці, але гэта, пэўна, неўзабаве зменіцца. Бо ўсё хутка мяняецца ў раёне вялікага руху і ўзаемаабмену.

Затое напэўна не зменіцца наша геаграфічнае палажэнне. Упертыя ў непарушную і непраходную мяжу імперыі, будзем весці ціхае, застойнае жыццё ўскраіны. І карміць сябе пацехай, што хоць бедныя, але жывём у „зялёных лёгкіх Польшчы". А іншыя хай труцяцца ў тым сваім дабрабыце.

**Мікола Ваўранюк**

# Адгалоскі

**Паважаны Галоўны Рэдактар!**

Хачу падзякаваць спадару М. Панфілюку за высокую ацэнку, якую даў ён мне ў 31-м н-ры „Нівы" на маё „Нарэшце".

Спадар Панфілюк! Дзякую, што Вы мяне называеце абаронцам правоў чалавека і што хочаце мяне ўзнагародзіць Нобелем. За гэта — як атрымаю тую ўзнагароду — запрашу Вас на піва; таксама і за тое, што мяне ставіце ў рады вучняў А. Вышынскага.

Хачу адказаць, што вучнем А. Вышынскага я не быў. У 1948 годзе быў я ў Беластоку пры вуліцы Міцкевіча 5, дзе памяшчалася школа, у якой настаўнічалі вучні Вышынскага: я там праз пару месяцаў атрымаў такую навуку, што мяне не ўзялі ў салдаты і па сённяшні дзень я інвалід II групы. Мне ўжо 70 гадоў, але ніколі не спакусіўся быць падлізнікам.

А ці я беларус — праверце ў метрыках. Нарадзіўся я ў Міхалове, ахрысцілі мяне ў праваслаўнай царкве. Мой бацька, дзед ды прадзед з боку маці — усе нарадзіліся на Беласточчыне; у Міхалоўскай гміне. Думаю, што гэта не павінна выклікаць ніякіх сумненняў наконт маёй нацыянальнасці.

Адно думаю, што сапраўдны беларус не пойдзе пад Беларускае консульства і не стане крычаць, што не ішло і не ехала.

Панфілюк называе мяне вучнем А. Вышынскага, пані Зося ў 33-м н-ры „Нівы" спамінае яшчэ І. В. Сталіна, а Сакрат Яновіч называе мяне „беларусападобенцам"... Куды гэта вядзе?

**Дзядзька Захар**

PS: Не разумею, чаму ганяць Лукашэнку, якога выбраў Народ Беларускі. Чаму яшчэ ніхто не пахваліў Астроўскага — прэзідэнта Беларусі з ласкі Гітлера.

Прэзідэнты прыходзяць і адыходзяць, мяняюцца ўрады... А на будынку ўсё-такі будзе напісана „Konsulat Białorusi".

# Мая „Ніва" без... „Зоркі"!

Калі я бяру ў рукі новы нумар „Нівы", спярша яго пераглядаю, а пасля пачынаю чытаць ад першай старонкі. Не абмінаю і „Зоркі", хаця гэта старонка для дзяцей. Калі я пачала гартаць „Ніву" № 31 ад 4 жніўня 1996 г., то ў мяне аж дух заняло! Чаму ж гэта сярэдзіна пустая?! Ці „Зорка" не будзе друкавацца, ці можа не было ніякіх матэрыялаў да друку? А можа зноў нейкая цэнзура ўзяла ды прычапілася да „небяспечных" тэкстаў? А, можа, мне проста трапіўся такі нумар „Нівы" з агрэхам, у якім правінілася толькі друкарня.

Калі прачытала я, што будзе праз тыдзень у „Ніве", то мне таксама кальнула ў сэрца. Даруйце, паважаныя працаўнікі „Нівы", але чаму я не магу далей падпісвацца сваім псеўданімам? Ужо я 11 гадоў вядомая як Аўрора. Калі хтосьці думае, што мой псеўданім мае штосьці супольнае з крэйсерам „Аўрора", то памыляецца. Гэта зусім не тая гісторыя. Дарэчы, імя Аўрора, іначай Заранка, досыць папулярнае ў некаторых краінах. Напрыклад, вядомая французская пісьменніца, якая падпісвалася псеўданімам Жорж Санд, сяброўка Фрыдэрыка Шапэна, у сапраўднасці мела імя Аўрора. І я далей хачу быць на старонках „Нівы" „Аўрорай". І яшчэ хачу, каб „Зорчына" месца ніколі не было пустое!

**Аўрора**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Як я стаў салідарнікам

Грамадска-палітычныя перамены ў пачатку васьмідзесятых гадоў бурай пракаціліся па краіне. Ахапілі ўсе галіны гаспадаркі, у тым ліку чыгунку. Масавыя пратэсты, забастоўкі, сталі штодзённымі.

Важаком масавага незадавальнення рабочых былі тадышнія афіцыйныя прафсаюзы і „Салідарнасць". Гэта апошняя арганізацыя расла з кожным днём і незадоўга ператварылася ў магутную сілу.

У Чаромсе ў пачатках 1990 года існавалі абодва прафсаюзы.

Рабочы калектыў бачыў многа хібаў у працы сваіх начальнікаў, а таксама у дзейнасці прафсаюзаў. Аднак прэтэнзіі працаўнікоў, неаднойчы пасыланыя ў сталіцу, не знаходзілі зразумення ў вярхушкі. Чыноўнікі з Раённай дырэкцыі ў Седльцах, ці Цэнтральнай у Варшаве, не надта спяшаліся з увядзеннем новых парадкаў на дзяржаўнай чыгунцы, таму з прыжмуранымі вачыма паглядалі яны на беспарадкі і неадпаведныя міжлюдскія адносіны на чаромхаўскай станцыі.

А скаргі з Чаромхі ўсё больш і больш паступалі і ў Седльцы, і ў Варшаву. У Цэнтральнай чыгуначнай дырэкцыі і Генеральнай, якая дзейнічае ў структурах Міністэрства камунікацыі, чаромхаўскай станцыі прысвоілі мянушку „асінага гнязда", бо сапраўды, анаанімкі чаромхаўскіх рабочых запускалі небяспечны яд у азадкі сваіх начальнікаў. Я тады працаваў загадчыкам станцыйных складаў і не ўключаўся ў ніякія спрэчкі, ды і мяне ніхто не кранаў. Мая пасада і матэрыяльная адказнасць за даверану мне маёмасць гарантавала нейкую незалежнасць. Ды і мае шэфы не хацелі заступаць мне дарогу, ведаючы мой характар і рэпутацыю, якую мне даваў сам дырэктар раёна ў Седльцах.

Да мяне на склады прыходзілі дзесяткі рабочых за спецвопраткай і рознымі чыгуначнымі прыладамі. Таму аб усім, што дзеецца на станцыі, я ведаў першы. Аднойчы ў кантору зайшло да мяне некалькі кандуктараў і папрасілі, каб я выказаў свой погляд у іхняй справе. Датычыла яна чарговай скаргі кандуктарскіх дружын, якую накіравалі яны галоўнаму дырэктару ў Варшаве. Пад прашэннем віднелі подпісы каля васьмідзесяці незадаволеных працаўнікоў.

Я ўсё скрупулёзна прачытаў, разважаючы кожную дэталь, запісаную ў пратэсце супраць мясцовага кіраўніцтва. Мае субясеednікі прасілі, каб я саставіў ім кампанію і паехаў з прашэннем у Варшаву.

Я не адказаўся. Усе паказаныя кандуктарамі факты былі мне добра вядомымі. Таму рашыў я стаць на баку сваіх калег у імя грамадскай справядлівасці.

У сталіцу паехала нас чатырох, трох кіраўнікоў цягнікоў і я. У вагоне ўсё яшчэ дэталёва абмеркавалі, каб даказаць дырэктару свае рацыі. Ідучы ў Цэнтральную дырэкцыю, мы вельмі хваляваліся. Не ведалі, у якім напрамку пойдуць справы. Я глядзеў больш аптымістычна на ўсё гэта і пацяшаў сваіх калег, што наша паездка завяршыцца паспяхова. Аднак памыліўся.

У прыёмнай сакратарка папыталася нас, у якой справе і да каго мы прыехалі, а потым сказала:

— Пана дырэктара пакуль што няма. Пачакайце хвілінку...

Мы нерухома стаялі, калі раптам за намі пачуўся голас:

— Вы да каго і ў якой справе?!

За намі стаяў мужчына без уніформы. Я пазнаў, што гэта галоўны дырэктар Р. Альшэўскі. Мы паяснілі справу. Пан дырэктар тым жа нязетлівым голасам спытаў:

— А што на гэта прафсаюзы?

— Яны нас не слухаюць, з начальнікамі трымаюць, — кажу я.

— Вам не падабаюцца гэтыя, дык арганізуйце свае, — рашуча завяршыў нашу размову дырэктар Альшэўскі.

Мы пакідалі прыёмную з сумам на твары. У маіх руках засталося неразгледжанае прашэнне работнікаў нашай станцыі.

— А як жа мы пакажамся на рабоце? — пыталіся мае спадарожнікі. — Мы абяцалі справу паспяхова ўладзіць, а зараз аказваецца, што схлусілі?..

— Ідзем у „Салідарнасць", — кінуў нехта з маіх калег. — Там усё раскажам. Няўжо ж не памогуць?

Незадоўга мы спыніліся перад дзвярыма кабінета з шыльдачкай „Краёвая секцыя «Салідарнасці»".

Адтуль аднак нас адправілі ў іншы пакой.

— Гэтай справай займаецца акруговая секцыя, якая працуе пры Цэнтральнай дырэкцыі, — заявіла сімпатычная прыгажуня, якой мы расказалі мэту свайго візіту.

У Акруговай секцыі нас прынялі ветліва. Папрасілі ўсё падрабязна расказаць, што мы з задавальненнем зрабілі. Паказалі скаргу.

— І што на гэта дырэктар?

— Не схацеў гаварыць...

— У сваім праўленні „Салідарнасці" вы былі?..

Тут мы адзін на другога нерашуча паглядзелі. Ніхто з нас не з'яўляўся салідарнікам і ніхто з чаромхаўскіх салідарнікамі не рашаў гэтай праблемы. Аднак, закруціўшы іншую тэму, мы пазбягалі непрыемнага нам усім пытання.

Пасля амаль паўтарагадзіннай размовы мы пакідалі кантору ў аптымістычным настроі. І хоць ужо нельга было нічога адмяніць у павышэннях нашых зарплат, іскрынка надзеі, пакінутая нам варшаўскімі салідарнікамі, падказала, што прыйшоў час на перамены і ў Чаромсе.

Вяртаючыся дамоў, я рашыў стаць членам „Салідарнасці". Праз некалькі тыдняў я падпісаў дэкларацыю. Вось так я і стаў салідарнікам.

**Уладзімір Сідарук**

# Як беларус з беларусам

Дыскусія, якая пачалася ў „Ніве" пасля славутага ўжо пікету перад консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку, не спыняецца. Аднак з увагі на тое, што з паасобных выказванняў цалкам ужо знікаюць мерытарычныя аргументы, а застаецца толькі чыстая лаянка, мы вымушаны абмежаваць гэты асаблівы абмен думкамі да размовы вакол ідэі, якая яе выклікала. Мы ўжо інфармавалі, што з увагі на агрэсіўны тон і недапушчальныя прэсавым правам атакі на паасобных людзей, мы дазволілі сабе пакараціць выказванні спадара, які падпісаўся *Зофія П.* Спадар *Зофія* ў сваім лісце падазраваў аднаго з нашых карэспандэнтаў, што менавіта ён з'яўляецца аўтарам усіх публікацый у падтрымку камунізму і прэзідэнта Лукашэнкі. Наш карэспандэнт, у сваю чаргу, выцягнуў таксама зусім памылковыя высновы, менавіта, што *Зофія П.* гэта ніхто іншы як ягоны сталы палеміст на старонках нашага тыднёвіка. Прапанаваных у друк лістоў мы не можам змяшчаць з увагі на адсутнасць у іх якіх-колечы новых аргументаў і перавышаючую ўсе нормы колькасць эпітэтаў.

Пішуць нам таксама ўсялякія дзіўныя людзі, якія ў канцы лістоў змяшчаюць нейкія прыдуманыя імёны, прозвішчы і адрасы, звяртаючы пры тым увагу, каб гэтыя даныя захаваць да ведама рэдакцыі. Такім чынам ствараюць яны ўражанне праўдзівасці гэтых інфармацый. Найчасцей такія допісы абмяжоўваюцца да паклёпаў, накіраваных у адрас беларускіх дзеячаў. Большасць лістоў гэтага характару напісаны на польскай мове, што сведчыць пра ненайвышэйшы ўзровень прафесіяналізму пастаянных назіральнікаў за жыццём нашага грамадства.

Неверагодна вялікую колькасць прыхільнікаў свае палітыкі сярод беларусаў Беласточчыны мае прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Шкада толькі, што яго паклоннікі абмяжоўваюцца выключна да закідаў здрады ў адрас тых, якім ён не надта падабаецца. Цікава было б прачытаць меркаванні чалавека, які бачыць карысць для Беларусі і беларусаў у палітыцы прэзідэнта Лукашэнкі. Чаму на Беласточчыне не паважаюць Зянона Пазьняка — вядома. Ён — католік, а калі католік, тады напэўна паляк, — пісалі нашы чытачы.

Характэрнай рысай нашага штодзённага жыцця, а затым і кожнай адкрытай дыскусіі, з'яўляецца і тое, што не прымаем да ведама існавання іншых поглядаў, чым нашы ўласныя, іншага бачання свету, іншага ўзору культуры, іншых палітычных сімпатыяў. І няма ў гэтай галіне разыходжання паміж маладымі і старымі, маламестачковымі п'яніцамі і беластоцкай элітай. Яшчэ іншай прыкметай нашых палемік ёсць і тое, што большасць выказваецца вельмі эмацыянальна. Зрэдку нехта звяртае ўвагу на рацыі сваіх суразмоўцаў. Выглядае гэта так, быццам бы ніхто не верыць, што можна некага пераканаць да сваіх рацый. На нашу думку, прагрэс наступае тады, калі людзі паміж сабою абменьваюцца думкамі, пры тым сварацца, але ў канцы канцоў шукаюць нейкага паразумення.

Адкрытая дыскусія мае заўсёды адну мэту — кожны бок хоча пераканаць для сваіх рацый як найбольш выпадковых назіральнікаў. У нас наадварот: дыскусія вядзецца найчасцей так, як бы кожны бок хацеў знеахвоціць людзей да справы, за якую змагаецца. Такую сітуацыю вельмі спраўна выкарыстоўваюць людзі асаблівага характару, якія навокал гавораць тое, што большасць хоча слухаць. Ім наш лёс абыякавы, але беларусы іх менавіта будуць яшчэ доўга выбіраць сваімі прадстаўнікамі ва ўсе органы ўлады.

**Яўген Міранові́ч**

# „Калі пяройдзеш у каталікі?"

**З 13 па 20 жніўня па запрашэнню ўладыкі Савы пабывала на Беласточчыне група з 21 дзіцяці з-пад чарнобыльскага Оўруча на Украіне. Дзеткі наведалі Беласток, адпачылі ў Супраслі і паломнічалі на Св. Гару Грабарку. Мы гутарылі з апекуном групы а. Міхаілам ІЛЬНІЦКІМ.**

***— Ці гэта Ваша першае замежнае паломніцтва?***

— Ад нас усяго паўгадзіны язды да Беларусі, дык спярша паломнічалі туды. У мінулую сераду мы ездзілі ў Мінск, Оршу, Хатынь і Смаленск.

У Мінску нас прыняў мітрапаліт Філарэт. У Оршы наведалі Ільінскі манастыр. У Смаленску нас прыняў мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл. У мінулую суботу якраз святкавалі 950-годдзе перанясення іконы Смаленскай Адзігітрыі з Канстанцінопаля.

У верасні збіраемся ў паломніцтва ў Пачаеўскую лаўру.

***— Адкуль бярэце грошы на далёкія паездкі?***

— Жывем мы бедна, але ўсе паломніцкія групы для дзяцей бясплатныя. Плаціць толькі дарослыя. На дзве апошнія групы спатрэбілася 367 мільёнаў карбаванцаў (80 тысяч карбаванцаў = 1 долар). Большасць грошай, 230 млн. карбаванцаў дала адна арганізацыя бізнесменаў з Жытоміра.

***— А як наогул выглядае дзейнасць Праваслаўнай царквы на Палессі?***

— Царква хутка развіваецца. У 1989 г. Жытомірская епархія налічвала 96 прыходаў. Цяпер яна падзелена на 2 епархіі: Оўруцка-Карасценскую са 156 прыходамі і Жытомірска-Наваград-Валынскую са 175 прыходамі. Адчуваецца вялікае запатрабаванне на святароў. У нашай епархіі тэрмінова трэба 30 новых душпастыраў. У самім Оўручы будуем царкву і дом для святара.

***— Няўжо ж усё ідзе бестурботна? Даходзяць да нас весткі аб безупынных закалотах ва ўкраінскай Царкве.***

— У нас на Палессі самай вялікай праблемай з'яўляецца наступленне сектантаў. Яны за гуманітарную дапамогу купляюць усё і ўся.

Сам я з уніятаў, з Туркаўскага раёна Львоўскай вобласці, і вельмі балюча ўспрымаю тое, што адбываецца ў маёй роднай староньцы. Вось два гады таму я заехаў на бацькаўшчыну. Сустракаю суседа. Той пытаецца: „Калі пяройдзеш у каталікі?" (г.зн. ва уніяты). Адказваю яму: „Пакуль Гасподзь не забраў мне розум, да таго часу я буду праваслаўным". У адказ чую: „Калі сунем табе нож, хутка пяройдзеш". Нават не верыцца, што людзі могуць на такое пайсці.

***— Дзякую за размову.***

Гутарыў
**Алег Латышонак**

P.S. Айцец Міхаіл Ільніцкі прасіў напісаць, што ён і яго прыхаджане хочуць наладзіць кантакты з праваслаўнымі ў Польшчы і Беларусі. Запрашаюць яны да сябе і кажуць, каб занадта не баяцца радыяцыі. Вось адрас:

Украина
260030 Житомирская обл.
Овручский р-н
с. Великая Фосня
свящ. Михаил Ильницкий
тэл. 62-1-22



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Што было, што ёсць, што будзе...

*(нататкі на палях кнігі)*

Кніга *Лёс аднаго пакалення. Успаміны Кастуся Сідаровіча, Юстына Пракаповіча, Янкі Жамойціна, Віктара Ярмалковіча*, што нядаўна з'явілася ў Беластоку, належыць да вялікага ўжо абшару (і ўсё пашыраючагася) гулагаўскай літаратуры, у шырэйшым значэнні слова. У навейшым часе даў ёй пачатак, відаць, пратапоп Авакум сваім *Жыціем...* (XVII ст.). Гэты старавер быў сасланы ў Пуставозерскі астрог, дзе яго замуравалі ў земляным зрубе; пасля 15 гадоў, не ў змозе зламаць духа непакорлівага святара, прыказалі яго тамака проста спаліць жыўцом. Наступным вехавым творам гулагаўскай літаратуры былі *Запіскі з мёртвага дома* (1861—1862) Ф. Дастаеўскага. Сто гадоў пазней чарговай вехаю на гэтай дарозе сталі *Адзін дзень Івана Дзянісавіча* (1962) і *Архіпелаг ГУЛаг. 1918—1956. Спроба мастацкага доследу* (1958—1973) А. Салжаніцына. Апошні твор і даў усім на гэту тэму ранейшым і пазнейшым творам не толькі расійскіх аўтараў назоў „гулагаўская літаратура".

Беларускую гулагаўскую карту адкрыў яшчэ ў 1934 годзе сваёй знакамітай аповесцю *У кіпцюрох ГПУ* Францішак Аляхновіч. Ягонымі слядамі прыйшлося прайсці па кругах пекла шматлікім нашым палітыкам, вайскоўцам, грамадскім дзеячам, студэнтам, вучоным, пісьменнікам — м.ін. Л. Геніюш, М. Сяднёву, С. Грахоўскаму, А. Шашалевічу (Мрый). Трапляла на гэту дарогу і зусім радавая інтэлігенцыя з правінцыі — настаўнікі ды нацыянальна свядомая вясковая моладзь.

Колькі было іх там усіх разам — сёння яшчэ ніхто толкам не ведае. Няма, здаецца, такіх афіцыяльных падлікаў. Ва ўсякім выпадку мне яны невядомыя. Таму вельмі добра, што менавіта ў нас выйшла кніга *Лёс аднаго пакалення*, і асабліва з увагі на „гулагаўскі" матэрыял Я. Жамойціна. Хоць не толькі. Бо ж маюць сваю непрамінаючую дакументальную вартасць успаміны і трох астатніх аўтараў. Дзякуючы ім чытыром, напоўнілася дадатковым жывым і пераканаўчым зместам мартыралогія беларускага народа ў XX стагоддзі.

Трагедыя беларускай нацыі, як паказваюць вобразна і аўтары гэтых успамінаў, а таксама і ўсе іншыя „гулагаўцы", заключаецца ў тым, што ёй здавён сілаю вызначаюць гістарычны шлях „развіцця" або толькі прамаскоўскі, або толькі праваршаўскі, не дазваляючы рэалізаваць выключна свой, трэці шлях, прабеларускі. Усе, хто разгартаў сваю дзейнасць дзеля Айчыны ў трэці напрамак, мусілі трапіць і траплялі як ворагі ці то ў кіпцюры расіян, ці то ў лапы палякаў альбо пад кулі немцаў у апошнюю вайну.

Гэтак заўсёды рабілася ў экстрэмальных варунках. У паспакайнелых — тыя ж, напрыклад, Польшча ці Нямеччына давалі многім беларусам-уцекачам цалкам добры прытулак, ставалася іхняй айчынай. І не для некалькіх чалавек, а для многіх, у розныя перыяды гісторыі. Такім чынам, загаловак зборніка *Лёс аднаго пакалення* стварае непатрэбную для нас саміх няўцямную гістарыясафічную ілюзію. Бо каб жа гэта такі лёс, які апісваецца аўтарамі кнігі, датычыў толькі аднаго пакалення!

А ці ж гэты „лёс", у інакшым — вядома — стылі, не паўтараецца і зараз? Мы самі бачым (і адчуваем скураю), як мала трэба выбухования рэчыва, каб і ў нашым рэгіёне, як непадалёку тут і там, нацыі кінуліся зноўку душыць адна другую. Усё забываецца... І ў яго яшчэ больш выганчанай форме паўтарыцца могуць картуз-бяроза, этапы, ізалятары.

Гаворачы гэта, я хачу прыпомніць чытачам, пра што яны, мабыць, цалкам забываюць — тое менавіта, што гісторыя, на жаль, мала чаго людзей вучыць, калі наогул вучыць чаго-небудзь.

Чаму так дзеецца? А таму, што прыватнае жыццё звычайнага чалавека поўнасцю выключана з гісторыі. І таму, што людзі, як мне здаецца, зусім павярхоўна, лёгка перажываюць гістарычныя здарэнні — будзь гэта вайна, рэвалюцыя, паход арды ці павеў іншай заразы. У сваёй вялікай масе яны хутка прыстасоўваюцца да кожнай сітуацыі і могуць, аказваецца, жыць нават пад Зоркаю Палын. І толькі лічаныя адзінкі маюць адвагу думаць па-свойму, мець сваё меркаванне, бачаць свет стэрэаскапічна і галаграфічна. А ўсе іншыя жывуць і дзейнічаюць па закону найпрацейшай, двухсэнсоўнай логікі „або-або": так-не, плюс-мінус, дабро-зло, шчасце-няшчасце, дурань-разумны, святы-грэшны, прыяцель-вораг і г.д.

Успаміны, што састаўляюць кнігу *Лёс аднаго пакалення*, таксама пазначаны пячаткаю двухсэнсоўнай логікі. Аўтары не сумняваюцца ў канчатковасці сваіх ведаў пра аграмадны, непрадказальны свет і тое, што ў ім творыцца. У іх няма ніякіх па сутнасці здзіўленняў, пытанняў, сумніваў — што да чаго? чаму? як? на што? адкуль і як доўга? Няма спробы глянуць на рэчаіснасць ад фундаментаў метафізікі быцця. Яны не хочуць быць у гісторыі. Здаўна не хочуць прымаць удзел у гісторыі ўсе беларусы. Можа, таму што гэта, як бачаць і прадчуваюць, не іхняя гісторыя? Апынуўшыся ў яе варухлівым чэраве, стараюцца ўсімі сіламі як найхутчэй вызваліцца з ейнага трыбуха.

Шкада, шкада... Бо, як сказана ў Святым Пісанні, вуснамі немаўлятак прамаўляе праўда. Бо ведама, не аднаму зрэшты мне, што не ўсё ў нашым жыцці складаецца і так па кантрасту, і так проста, як падказвае тая Арыстоцелевая логіка. Адмаўляючы універсальную тэорыю грамадства, на якой грунтуецца кожны таталітарызм, людзі не заўважаюць, як падпускаюць к сабе новую спакусу — не менш клінічна хваравітае разрастанне універсальнай тэорыі асобы. Ужо зараз колькі маецца „навукова" распрацаваных канцэпцый дзеля таго, каб увайсці ў чужое „я", апанаваць свет другога чалавека, валодаць ім — пасадзіўшы насупраць у шкляным экране гуру пад выглядам нейкага экстрасенса, скажам, Кашпіроўскага ці іншай „галавы", якая будзе „ўстаўляць" нам свае мазгі.

Зборнік успамінаў *Лёс аднаго пакалення*, абмінаючы шмат якія аспекты нашай чалавечай экзістэнцыі, тым не менш, а можа якраз дзякуючы гэтаму, сваімі фігурнымі жыццяпісамі перасцерагае: калі гаворыць — то кажа, каб памяталі, што было! А калі прамоўчвае — дык міжволі напамінае, што можа быць!

**Ян Чыквін**

*Лёс аднаго пакалення. Успаміны Кастуся Сідаровіча. Юстына Пракаповіча. Янкі Жамойціна. Віктара Ярмалковіча*. Беласток 1996.

---

**Максім ТАНК**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1978

**5.VI.** Дома — розныя непаладкі. Расце пакаленне самалюбаў. Чым больш мы стараемся прывіць пачуццё калектывізму сям'і, тым больш сустракаем супярэчнасцяў, з якімі цяжка і немагчыма нам справіцца.

Гаварыў з М. Ткачовым пра кнігу Я. Брыля, якую стараемся адстаяць у Галаўліце (цэнзуры — рэд.).

Калісьці забойчую фразу кінуў Дунікоўскі на адной з выставак у „Захэнцэ": „Бачыў я скульптуру ў гліне, у мармуры, у бронзе. Першы раз бачу ў вазеліне". Трэба сказаць, што ў нас асабліва вялікі попыт на творы ў вазеліне.

**11.VII.** Прачытаў „Крылы над морам" Э. Матузявічуса і „Сонечны гром" І. Драча. Не разумею, чаму ў свой час некаторыя ўкраінскія паэты лічылі яго Юльянам-Адступнікам. Гэта — харошы паэт, цікавы і самабытны, з яркім нацыянальным почыркам.

Ніхто не звярнуў увагі на тое, як хутка губляюць сваю атракцыю розныя фестывалі, конкурсы. Можа таму, што ва ўсім гэтым ёсць нешта штучнае, разыгранае.

**12.VII.** Зараз Максім працуе ў рэстаўрацыйнай лабараторыі. Работа цікавая і вельмі патрэбная. Колькі ў нас загінула гістарычных помнікаў. Не ўмеем мы даражыць сваёй спадчынай і беражна да яе адносіцца. А гэта пагражае нам застацца без роду, без племені.

**30.VII.** Валодзька Зосін (В. Сегаль) выдаў перакладзеную ім на польскую мову анталогію маладой балгарскай паэзіі. Каб не піў, відаць, быў бы з яго толк, а так скаціўся ў балота багемы.

Быў на адкрыцці мемарыяльнай дошкі І. Мележу на доме, у якім ён жыў апошнія свае гады.

А ў горадзе — духата. Паветра перасычана перагарам бензіну. Смог запрудзіў усе вуліцы.

У сёмым нумары „Маладосці" надрукаваны харошыя вершы Н. Мацяш і Г. Кляўко.

**5.VIII.** Поўная хата гасцей. Не ведаем, як іх усіх і размясціць. Любаша, як катаржніца, цэлымі днямі прыкута да кухні.

Вечарам быў Сергіевіч з жонкай. Ён недзе абаснаваўся на другім канцы Купы.

Перад сном пачаў чытаць С. Стабра аб творчасці Р. Ваячка.

Поўнач... Цішыня. Толькі на турбазе чуваць іграе музыка, ды ўсхліпвае Ваня, якога Федзя пакінуў на пару дзён.

**8.VIII.** У рэцэнзіі Ф. Сікорскага на кніну Г. Віспера „Вайна на вайне" ёсць цікавае выказванне на ўзаемаадносіны, якія склаліся паміж літоўцамі і палякамі пасля першай сусветнай вайны. „Варожасць літоўцаў да палякаў была прадыктавана гістарычна-рацыянальнымі рацыямі. Перавага польскага элементу і польскай культуры на працягу цэлых стагоддзяў не толькі не дазволіла на развіццё сваёй культуры і літоўскай літаратурнай мовы, але прывяла да асіміляцыі літоўцаў". Аб гэтым сведчыць статыстыка. У Вільні пражывала тады 68 733 палякаў, 60 613 яўрэяў і 3 671 літовец.

Памёр ксёндз Вільгельм Кубш, пра якога чуў ад П. К. Панамарэнкі, што ён быў у партызанскім атрадзе, потым — у дывізіі Т. Касцюшкі. Цікавая біяграфія ў гэтага чалавека ў сутане, які ў грозны час з крыжам і з аўтаматам уступіў на шлях барацьбы супроць фашысцкіх захопнікаў.

Я ўсё часцей парушаю граніцу паміж прозай і паэзіяй. І хоць знаю, што многія асуджаюць мяне за гэта, але для мяне яна, як табу, ужо не існавала з дня нараджэння першых маіх вершаў.

А дождж імжыць ды імжыць. Не дождж, а нейкае насланне.

**12.VIII.** Нарэшце ўсе раз'ехаліся. Гляджу ў закратаванае дажджом акно і ўспамінаю Міхася Ціханавіча (Лынькова — рэд.), Аркадзя (Куляшова — рэд.)..., за якімі і мне пара збірацца у дарогу, за сябрамі, якія, як казаў Лесьмян, „на смерць старэйшыя".

**14.VIII.** Прыйшла паштоўка ад Ірыны з малюнкамі Сяргея: Планерскае, мора, горы... Разам з імі адпачываюць Гілевічы, Грахоўскія... Гутарыў з М. Лужаніным пра „Лысагорскую паэму", якую лічу адным з выдатнейшых сатырычных твораў у нашай літаратуры. Застаецца загадкай: хто яе аўтар? І тут апраставаліся ўсе нашы даследчыкі, што да гэтага часу не ведаюць — хто яе напісаў, хоць з аўтарам яе часта сустракаюцца.

***(працяг будзе)***

---

# Як нас бачаць

У вельмі прыгожым і акуратна дагледжаным Музеі вёскі ў Цеханоўцы ёсць і беларускія экспанаты. Частка іх — з колішняга Беларускага музея ў Белавежы — напэўна вернецца ў Гайнаўку. Але частка астанецца — і гэта добра — каб матэрыяльна сведчыць пра наша мінулае на Беласточчыне. Можа толькі крыху варта падумаць пра спосаб яго прэзентацыі.

Я быў сведкам, калі праваднік перад хатай з Сакоў, што на Бельшчыне, да групы, відаць, нетутэйшых палякаў гаварыў прыкладна так: „To, jak mówi nasz dyrektor Kazimierz Uszyński, swoiste kuriozum. Jedyna białoruska chata w polskim skansenie. Pochodzi z okolic Bielska Podlaskiego, gdzie ludność określa się jako polscy Białorusini".

Далей было пра своеасаблівасці яе пабудовы і абсталюнку. Праваднік звярнуў увагу на ўстанаўленне ў адзін непарыўны рад жылых і гаспадарчых памяшканняў, а ўнутры, між іншым, на вялікую печ і месца на запечку, дзе спала побач сябе ўся, пераважна немалая сям'я.

Заслухаўшы такую цікавую інфармацыю, у сенях маці дзялілася сваімі заўвагамі з больш-менш дзесяцігадовай дачкой, паказваючы праз дзверы на шырокі ложак і збітыя з дошак яшчэ шырэйшыя палаткі: „Od razu widać, że to inna kultura. Żeby tak spać całą rodziną na kupie!"

**(ак)**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Жыць сярод сваіх людзей

— Як дарасцем, то будзем гаспадарамі, — сказалі на адной сустрэчы хлапчукі з Курашава.

— Бо ў нас найцікавей і найпрыгажэй, — падмацоўвалі сваё рашэнне хлапчукі.

Рэдка сустрэнеце на Беласточчыне такіх дзяцей. Амаль усе хочуць жыць у Варшаве, Беластоку або Злучаных Штатах Амерыкі. Чаму нашы людзі не шануюць сваіх родных мясцін? Перш за ўсё таму, што рэдка дзе-колечы падарожнічаюць або не ўмеюць зарабляць грошай.

— Ва ўсім свеце жыццё такое самае, — гаворыць 15-гадовая Марта з Нью-Йорка, якая ўжо тры гады прабывае ў Амерыцы. Дзяўчынка толькі там стала цаніць каштоўнасць роднай Беласточчыны.

— Нідзе так прыгожа не спяваюць птушкі і нідзе так ярка не свецяць зорачкі, як у роднай Гайнаўцы, — даказвала дзяўчына. Марта хацела б вярнуцца ў родную Гайнаўку.

— Бо тут мае найлепшыя сябры, свой панадворак і каханая бабуля, — гаворыць Марта. — А там усё нейкае чужое, далёкае. Марта таксама чытае „Зорку".

— І часта зайздрошчу ўсім дзецям, якія ходзяць на беларускую мову, або ідуць калядаваць ці ладзяць свой тэатр, — сумуе дзяўчына.

Ася з Бельска-Падляшскага хацела б пасяліцца ў Кленіках, родней вёсцы сваіх бацькоў.



*Хлопцы з Курашава хочуць стаць гаспадарамі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Толькі там буду мець свой басейн, спартыўную пляцоўку, тэлефон, свой самалёт і сяброў. — марыць дзяўчына.

Ася хоча стаць пісьменніцай, таму і мары ў яе вялікія. І пэўна здзейсняцца. Самае важнае, што і ў нас ёсць дзеці, якія хацелі б жыць на сваёй бацькаўшчыне, жыць сярод сваіх людзей.

ЗОРКА

## Варта вывучаць родную мову

Пачаўся новы навучальны год. Якраз цяпер здараецца непаўторная нагода, каб запісацца на беларускую мову. Сябры нашай старонкі з Нарвы даўно ўжо ведаюць, што варта вывучаць родную мову. Дзеці пазнаёміліся з новымі казкамі, вершамі, знакамітымі творамі беларускіх літаратараў, вывучылі алфавіт і граматыку. Сярод энтузіястаў роднай спадчыны заззялі і цікавыя таленты. Паэткі Аня Садоўская, Кася Русіновіч, Сыльвія Ракіцкая ці дэкламатарка Эвэліна Кучэўская добра вядомыя нашым чытачам. У Нарве намнога больш цікавых, таленавітых дзяцей. Там дзейнічаюць і дэкламатарскія і тэатральныя гурткі. Беларуская мова паспрыяла шматлікім сяброўствам.



*Малодшая тэатральная група з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Варта хадзіць на заняткі беларускай мовы, — гаворыць Аня Садоўская, дарэчы, і лаўрэатка прадметнага конкурсу.

Раней, калі Аня не ведала „Зоркі", пісала выключна на польскай мове. Зараз дзяўчынка ўмее выказваць свае думкі і пачуцці на роднай мове. І гэта несумненна дапамагае ў росквіце яе таленту. Пад уплывам Ані і Кася Русіновіч запісалася на ўрокі беларускай мовы. Дзяўчынка рашылася на гэты крок будучы ў шостым класе. Зараз і яна піша цікавыя вершы.

Варта адзначыць, што многія дзеці з Нарвы ўдзельнічаюць у конкурсах „Зоркі". Трэба спадзявацца, што наша супрацоўніцтва будзе і далей працягвацца, падмацоўвацца новымі талентамі і ўдзельнікамі „Творчых сустрэч «Зоркі»".

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Вялізны відэлец

З хаты дзедавай на двор
Выраўся Рыгорка.
Убачыў ля хлява сахор
Ён на панадворку.

— Дзедка, што за дзівакі
Такім чымсьці елі?
Каму ж зроблены такі
Вялізны відэлец?

### Не аглядалася курыца праходзячы праз вуліцу

Прыбег з плаксівай мінаю
Да мамы малы Юрачка:
— Забітая машынаю
Наша чорная курачка.

Заўжды прыпаміналася
Раздаўленая курыца.
Яна ж не аглядалася
Праходзячы праз вуліцу.

### Татка робіць грошы

Пытае доня матку:
— А дзе ж наш добры татка?
— Татулька наш харошы
Зарабляе грошы.

— Хацелася б сабрацца
Да гэтай таткі працы,
Убачыць там з раскошай
Як татка робіць грошы.

## У вырай

За гарамі, за марамі
жывуць мошкі з камарамі.
Круглы год яны вядуцца,
над балотамі віюцца.
Ад галоднае зімы
паляцім у вырай мы
на зялёныя абшары,
дзе снуюцца мошак хмары.
Вашы ластаўкі —
віць-юць! —
не на век туды лятуць.
Як абудзіцца прырода,
нашы вернуцца чароды.

Ала КАНАПЕЛЬКА

## Крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

***(Апрацавала Кася Леанюк з Гайнаўкі.)***




1. сабака ў казцы Дыснея; 2. руская рака; 3. лятучая „зладзейка"; 4. грызе арэшкі; 5. чырыкае на плоце; 6. у дзвярах; 7. тата; 8. месца таргоўлі, гандлю; 9. мясны выраб; 10. рысунковая адгаданка; 11. камплект літар; 12. алеістая расліна; 13. пасля вясны; 14. пчаліная сям'я; 15. лясная ягада.

## Конкурс! Конкурс! Конкурс!

(№ 1)

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. У якім горадзе Польшчы будуецца беларускі музей?
2. Назавіце тры рэчкі Беласточчыны, якія пачынаюцца з літары „Н".
3. Назавіце ўсе мясцовасці, у якіх сябры „Зоркі" размалявалі каляровыя крыжы.

ЗОРКА

Талон „Зоркі" № 36
08.09.1996



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

**Гульня для дзяцей. Напісала яе вядомая аўтарка „Мышкі Пік-Пік”.**

# Восеньскія скарбы

**(Як восенню правесці дзень нараджэння дзіцяці.)**

*Для правядзення гульняў з дзецьмі падрыхтуйце наступныя прадметы: па колькасці дзяцей, што будуць на свяце, уключаючы вінаўніка ўрачыстасці — узоры садавіны і гародніны з пераліканых: бурак, капуста, морква, бульба, цыбуля, яблык, груша; манета пяціграшовая ці іншая, вяроўка, два аркушыкі паперы звычайнага пісьмовага фармату, некалькі пластмасавых кубікаў ці кегляў, місу з вадою, нітку. Перад прыходам гасцей схавайце падрыхтаваны бурачок, бульбіну, яблык і г.д. у розных месцах пакоя. Калі дзяцей чакаецца больш сямі, схавайце два яблыкі, дзве грушы і г.д. Пастаўце на відомае месца прыгожы кошык ці вазу для садавіны. Вазьміце любы малюнак — вокладку ад часопіса, напрыклад, — і разрэжце на адвольныя кавалкі. А яшчэ ў імітаваную „сявеньку” — салатніцу, рэшата, плеценую сухарніцу і г.п. насыпце любога зерня (пажадана пшанічнага), ці проста якойсь крупы — груцы, рысу і г.д. У насыпанае зерне ўторкніце васковую свечку і пастаўце ўсё гэта на відомае месца, каб не замінала гульні.*

**Вядучая:** Дзень добры, дзеці! Сёння мы святкуем дзень нараджэння Ягоркі. У якую пару года мы з вамі сабраліся?

**Дзеці:** Восенню!

**Вядучая:** А восень — пара вельмі цікавая і для нашых продкаў чаканая. Восенню збіралі ўраджай, восенню, пасля канца жніва, ладзілі вяселлі. Восенню святкавалі старадаўняе земляробчае свята — багач. Такая прымаўка пра яго існуе: „Прыйшоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку”. Гэта значыць, што ў гэты час пачыналі сяўбу азімых — сеялі зерне для ўраджаю будучага года. Таму сімвалам багача была сявенька — плеценка, з якой сейбіт хадзіў па полі, насыпанае ў яе зерне — сімвал сабранага ўраджаю, і ўстаўленая ў зерне вясковая свечка — сімвал сонца, дабрабыту, а таксама благаслаўлення Маці Божай, да дня нараджэння якой і было прымеркавана свята багач. Вось ён стаіць, наш багач! Але свечка на ім яшчэ не запаленая. Каб яе запаліць, мы павінны сабраць восень у гэты кошык скарбы Восені. Яны схаваны ў гэтым пакоі. Вы павінны адшукаць іх — кожны з вас павінен знайсці адзін вось такі пакунак. *(Вядучая паказвае ўзор пакунка, у які схаваныя патрэбныя прадметы. Калі дзяцей мала — два-тры — можна прапанаваць ім адшукаць па два прадметы. Дзеці адшукваюць схаваныя прадметы, разглядаюць іх.)*

**Вядучая:** А цяпер, перш чым кожны з вашых прадметаў трапіць у кошык, кожны з іх трэба нам адваяваць у зямліцы. Я прачытаю загадку, і той, хто трымае ў руцэ адгадку, скажа мне яе!

Латка на латку, а іголка не была.
*(Капуста)*

Агатка правільна адгадала. Гэта капуста, якую яна знайшла. Бачыце, сапраўды, увесь качан нібы складзены з латак. Каб пасябраваць з капустай, трэба ўмець добра ставіць латкі. Вось тут у мяне ў каробцы цэлая куча латак. Трэба зляжыць з іх адзін малюнак. Нука, памагайце Агатцы!

*(Вядучая высыпае кавалкі малюнка на падлогу, дзеці складваюць з іх цэлы малюнак.)*

**Вядучая:** Цяпер наша капуста можа адправіцца ў кошык восені. Пакладзі яе, Агатка!

*(Дзяўчынка кладзе ў кошык качанчык. Вядучая чытае чарговую загадку)*

Жоўтае целка расце ў зямельцы,
Зялёная каса на вуліцы.
*(Морква)*

Пятрусь правільна паказвае мне сваю моркву. Цяпер, каб яна згадзілася адправіцца ў наш кошык, трэба яе адваяваць. Як моркву выцягваць з зямлі? За доўгую касу! Вось і мы зараз паспрабуем выцягнуць яе з зямлі... Гэтая вяроўка будзе ў нас касою, а замест морквы — Пятрусь і Ягорчын тата. *(Дзеці бяруцца за вяроўку і спрабуюць перацягнуць з-за вызначанай рысы — напрыклад, з другога пакоя — альбо дарослага з дзіцём, альбо іншых асоб, якія згодзяцца ўдзельнічаць. Пасля таго, як мэта гульні дасягнута, Вядучая аб'яўляе, што Морква таксама адпраўляецца ў кошык, прычым класці яе павінен зноў жа той, хто яе знайшоў. і чытае далейшую загадку.)*

Вясна яе хавае,
Лета ажыўляе.
Восень — дастае,
А зіма — прадае.
*(Бульба)*

Анечка правільна паказвае сваю бульбіну. Гэта бульба. Вы ж ведаеце, што бульба расце ў зямлі, і бульбяное поле прайсці цяжка — бо яно ўсё ў баразнах. І мы павінны, каб выбраць бульбу, навучыцца хадзіць з баразны на баразну. Кожны з вас будзе браць гэтыя два аркушыкі, адзін кладзецца перад сабой, наступаеце на яго двума нагамі, тады кладзецца перад сабой другі, пераступаеце на яго, забіраеце ззаду першы аркушык, зноў кладзецца перад сабой, пераступаеце на яго, забіраеце другі аркушык, зноў кладзецца перад сабой... Задача — прайсці так да канца пакоя, ні разу не ступіўшы на падлогу — толькі на паперкі. Анечка будзе першая!

*(Лепш адразу самому паказаць дзецям, як трэба пераходзіць пакой з дапамогай двух аркушыкаў.)*

Малайцы! Мы ўсе перайшлі бульбяное поле! Цяпер Анечка можа пакласці бульбу ў восеньскі кошык. Наступная загадка:

Паненка з паненак —
Сорак сукенак.
Хто распране —
Слёзы пралье.
*(Цыбуля)*

Алесь правільна паказвае сваю цыбулю. Сапраўды, калі цыбулю рэжам, аж вочы ад слёз слепіць! Таму паспрабуем трохі пахадзіць з зачыненымі вачыма. Я расстаўляю кубікі пасярод пакоя па адной лініі. Кожны з вас павінен прайсці з завязанымі вачыма між гэтых кубікаў і ні аднаго не зрушыць. Першым ідзе Алесь і нясе ў кошык сваю цыбулю.

*(Дзеці выконваюць практыкаванне. Цыбуля кладзецца ў кошык.)*

Наступная загадка:
Белы пан —
Чырвоны каптан.
Высока вісіць —
Нельга ўкусіць...
*(Яблык)*

Максім правільна адгадаў — гэта яблык! І мы ўсё-ткі паспрабуем яго ўкусіць!

*(Яблык падвешваецца на нітцы. Нітку трымае адзін з дарослых. Дзеці па чарзе спрабуюць укусіць падвешаны яблык. Нарэшце некаму гэта ўдаецца.)*

**Вядучая:** Вось наш яблык і адпраўляецца ў кошык.

Жоўты бок — унутры мядок.
*(Груша)*

Што гэта? Правільна, Веранічка, гэта груша. Высока яна расце, далёка падае, можа і ў калодзеж упасці, і ў лужыну... Вось гэтая міска з вадою — наш калодзеж. І груша туды ўпала.

*(Вядучая кладзе грушу ў міску з вадою. Міска стаіць на табурэтцы сярод пакоя, дзеці па чарзе спрабуюць злавіць яе ротам.)*

І нікуды ад нас груша не падзелася! Мы яе злавілі, і Веранічка можа пакласці яе ў кошык. А я чытаю наступную загадку:

Сам пан у чырвоным,
слугі — у зялёным.
*(Бурак)*

Правільна, Іллюк, гэта бурак. Вось ён які важны пан — тоўсты, круглы, у аксамітным каптане. Каб такога пана ўгаварыць зайсці ў кошык, трэба яму добра грошай даць. Паспрабуем прынесці пану Бураку грошай! На гэты канец пакоя я кладу капялюш. Вы па чарзе становіцеся на тым канцы, бярэце вось гэтую манету, прылепліваеце сабе на лоб і нясеце да капелюша, а тады скідваеце проста ў капялюш...

*(Вядучая паказвае дзецям, як выконваць заданне. Дзеці па чарзе робяць яго.)*

Цяпер пан Бурак адпраўляецца ў наш кошык. І мы сабралі ўсе скарбы Восені. І цяпер яна дазволіць нам запаліць свечку багача і адсвяткаваць наша свята.

*(Вядучая запальвае свечку.)*

А Восень даслала Ягорку на дзень яго нараджэння свае падарункі.

*(Дайце вашаму дзіцяці — чый дзень нараджэння святкуецца, кошык ці вазу з прыгожай садавінай. Прапануйце пачаставаць гасцей, якія так добра збіралі восеньскія скарбы, і запрасіце ўсіх за святочны стол.)*

**Людміла Рублеўская**

# Залатая яблынька

***(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

Расказала яму Галя, што надумалася зрабіць злая мачыха.

— Не плач, дзеўча, — кажа бычок. — Лепш паслухай, што я табе параю. Як зарэжуць мяне, вазьмі маю печань і там знойдзеш залатое зярнятка. Пасадзі тое зярнятка ў садку каля хаты. Вось і ўсё.

Галя так і зрабіла, як сказаў бычок.

Вырасла з зярнятка яблынька з залатымі яблыкамі.

Хто ні ідзе ці ні едзе каля садка — усе дзівяцца з залатой яблынькі.

Ехаў аднойчы з вайны прыгожы малады гусар. Убачыў яблыньку і спыніўся. Працягнуў руку да яе, каб сарваць залаты яблык. А яблынька — дзын, дзын, дзын! — і паднялася ўгору. Апусціў гусар руку — яблынька зноў стала на сваё месца.

Убачыла гэта праз акно Галя і кажа да мачыхі:

— Пайду я сарву гэтаму прыгожаму гусару адзін яблычак:

— Я табе галаву сарву!

Схапіла яна Галю ды пасадзіла пад карыта, а ў садок паслала Юлю: няхай, думае, лепш родная дачка сарве гэтаму гусару яблыкі, можа, ён закахаецца ў яе...

Падышла Юля да яблынькі, а тая — дзын, дзын, дзын! — і паднялася ўгору. Узлавалася Юля, пачала яе лаяць апошнімі словамі.

А тут якраз па двары хадзіў пеўнік. Ускочыў ён на плот і кукарэкае:

— Ку-ка-рэ-ку! Дзедава дачка пад карытам схавана, а бабіна хоча яблыкі яе сарваць ды выйсці замуж за пана...

Пачуў гэта гусар, злез з каня і пайшоў у хату. Знайшоў там пад карытам дзедаву дачку. Як зірнуў на яе, дык і вачэй не можа адарваць: так яна яму спадабалася.

— Дзеўка-дзявіца, — пакланіўся ёй гусар, — сарві мне на памяць залаты яблык са сваёй яблынькі.

Падышла Галя да яблынькі — і ўсе яблыкі ўпалі да яе ног.

Сабрала яна іх у прыпол, прынесла гусару. Гусар падхапіў яе, пасадзіў на каня побач з сабою і павёз да сваіх бацькоў.

Дома яны згулялі вяселле і сталі жыць-пажываць у згодзе ды ў ладзе. Нарадзіўся ў іх сын, ды такі прыгожы, што бацькі не нацешацца з яго.

Тым часам злая мачыха ніяк не магла спаць ад зайздрасці, што гусар не яе дачку, а дзедаву замуж узяў. І ўсё думала, як жа яе са свету звесці.

Аднаго разу кажа яна сваёй дачцэ:

— Схадзі ты, дачушка, да сястры ў госці. Пакліч яе з сабою купацца ды ўтапі...

Паслухала Юля маці, пайшла ў госці да сястры. Падгаварыла яе купацца. І кажа:

— Сядзь ты, сястрыца, на кладцы, я табе плечы памыю.

Села Галя на кладцы, а Юля скінула яе ў ваду і пабегла дахаты. Чакаюць дома Галю — няма. Малы сын плача, ніхто суцешыць не можа. Узяла яго нянька на рукі, пайшла ўздоўж рэчкі гукаючы:

— Галя, Галюся, твой маладзён плача, есці хоча. Куры спяць, гусі спяць, адзін ён не ўсыпаецца, маткі не дачакаецца...

І чуе яна голас з вады:

— Ой цяжка мне выйсці да сына: камень ногі падбівае, вада вочы залівае...

Пачуў малы сынок матчын голас і яшчэ мацней заплакаў.

— Ой іду, сынок, ой бягу, — адгукаецца маці. — Слухаць плач твой, сынок, не магу.

Выйшла маці з вады, накарміла сына, — ён і заснуў. А сама назад пайшла.

Вярнулася нянька дадому, расказала, што было каля рэчкі.

Назаўтра сам бацька ўзяў залаты яблык і сына ды пайшоў да рэчкі. Прыйшоў на бераг ды гукае:

— Галя, Галюся, твой маладзён плача, есці хоча. Куры спяць, гусі спяць, адзін ён не ўсыпаецца, цябе не дачакаецца...

Пачула маці сынаў голас і адказвае:

— Ой іду, сынок, ой бягу: слухаць плач твой, сынок, не магу.

Выйшла яна на бераг, накарміла сына, — ён і заснуў. Тады муж дастаў з кішэні залаты яблык і даў жонцы. Як толькі ўкусіла яна залаты яблык — адразу апрытомнела.

Зарадаваўся муж, прывёў яе дадому. Сталі яны зноў жыць добра і шчасліва.

А злую мачыху з яе дачкою больш да сябе і на парог не пускалі.

*(Са зборніка „Беларускія народныя казкі”)*



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*Справа: прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч і міністр Дар'юш Расацí; злева: міністр Веслаў Качмарак.*



*Прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч у акружэнні артыстаў з Беластоцкага аддзела БГКТ.*

# Фэст у Гарадку і Міхалове



*Пасол Плева ў рамантычным настроі.*

25 жніўня г.г. адбыліся два чарговыя фэсты — у Гарадку і Міхалове, арганізаваныя Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Асабліва цікавымі былі гульні ў Міхалове, а гэта таму, што ўдзельнікамі фэсту былі знакамітыя палітыкі, а ў іх ліку найбольш паважаны беластоцкімі беларусамі кіраўнік дзяржаўнай адміністрацыі прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч са сваімі міністрамі: замежных спраў Дар'юшам Расацí і прыватызацыі — Веславам Качмаркам.

На гэтых фэстах не магло таксама не быць знакамітых парламентарыяў з Беласточчыны Сяргея Плевы і Станіслава Малішэўскага, якія не адпусцілі да гэтай пары ніводнай забавы, арганізаваў БГКТ. Беларуская музыка і спевы фальклорных калектываў не дазволілі застацца абыякавымі нават прадстаўнікам цэнтральных улад Польшчы. Як відаць на здымках Сяргея Грынявіцкага, прэм'ер-міністр В. Цімашэвіч вельмі добра адчувае ўсе рытмы беларускай музыкі, хаця, зразумела, не мае такога вопыту, як паслы Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі.

**(РЭД.)**



*Пасол Малішэўскі любіць дынамічныя танцы.*

# „Ніва" — парнаграфічная газета Беласточчыны

Апошнія цёплыя дні павысілі ціск не толькі хворым на сэрца, але і прыхільнікам і варажэнькам адкрытасці эратычных зносін. А ўсё за справай камітэта антыпарнаграфічных „рыцараў" у Беластоку, які апавясціў на ўсю Польшчу вайну газетам з большай колькасцю надта смелых эратычных здымкаў. Спосаб дзеяння „самых справядлівых" напамінае дэсантныя акцыі. Група такіх баевікоў бярэ на вока кіёск „Руху", ейнага прадаўшчыка і „добрым словам" прымушае адмовіцца ад распаўсюджвання такіх газет. А калі гэта не памагае, тады прозвішчы самых заўзятых заносяцца ў спецыяльныя спіскі. А паколькі ў гэтым годзе агуркоў няшмат, справай зацікавілася тэлебачанне і нат самая яе палітычная праграма „Пульс дня", якая цёплым вечарам задумоўвалася над розніцай паміж парнаграфіяй і эротыкай (шкада, што аднак не ў палітыцы). Слухачы Беластоцкага радыё падзяліліся на тых, якія такія часопісы лічаць антыэстэтыкай і знішчэннем эмацыянальных сувязей, і тых, што, дзякуючы эратычным газетам, узбагачаюць сваё даволі кволае сексуальнае, славянскае жыццё. Думаць па начах не перастае хіба і ваяводскі пракурор, якому арганізатары акцыі даручылі паведамленне аб злачынстве. Нервовыя жэсты і ламлівы голас паказанага ў тэлебачанні пракурора сведчаць аб тым, што цяжка будзе аддаць яму належнае Богу, і быць адначасна ў згодзе з юрыдычнымі нормамі.

І калі інфармацыі пра дзейнасць самых маральных і цнатлівых мужчын Беластока слухаў я ад ранняга да вечара, тады раптам сцяміў, што ... што самым парнаграфічным тыднёвікам у Беластоку ўжо дзесяткі гадоў з'яўляецца „Ніва"! Чаму так? Ужо даю адказ. Вось калі прыходзіцца мне купляць „Ніву", дык у любым беластоцкім кіёску дакладна мне прыглядаюцца, а потым недзе з-за сябе прадаўшчыцы вельмі хутка выкідваюць прыхаваную газету. І так дзеецца гадамі. Такім чынам без аніякіх загадаў вядзецца сістэматычная вайна супраць парнаграфічнага зместу „Нівы", а асабліва супраць рубрыкі „Сардэчныя тайны". Адно ў гэтым суцяшальнае, што прадаўшчыцы ведаюць усе тонкасці беларускай мовы. Тут зараз запратэстуюць прыхільнікі тэорыі выключнай ролі загавору ў гісторыі чалавецтва, якія не будуць бачыць эратычнага кантэксту, а толькі акцыю варажэнькаў усіх і ўсяго. Летась канспіратыўная, на іх думку, дзейнасць прадаўшчыц з мэтай паўстрымання парнаграфіі на старонках „Нівы" атрымала падтрымку з боку кіруючай „адзінай і маральна чыстай сілы" (так сябе яны прадстаўляюць), якая запатрабавала абмежавання фінансавых сродкаў на ніўскую парнаграфію. Забыўся я заўважыць, што вельмі шкоднымі з'яўляюцца яшчэ парады Астрона ў рубрыцы „Вер-не вер", бо і так усе ведаюць, што сны ў большасці маюць эратычны кантэкст, і, як даказалі вучоныя, кожнаму з нас, ад маладога да старога, прыходзяць на думку грэшныя асацыяцыі.

Такога ўдару па „Ніве" не стрымаў хіба галоўны рэдактар, які, разгубіўшыся ў веснавых праменнях, змясціў паштоўку з прывітаннямі ад прыхільнікаў сексуальнай разбэшчанасці, на якой красаваліся голыя ж... Хутка, відаць, схамянуўся галоўны ў сваёй памыўцы і надрукаваў наступную паштоўку з перасцярогай, да чаго вядзе павышаная сексуальнасць. Але было ўжо запозна. У выніку тыраж парнаграфічнай „Нівы" рэзка панізіўся і спадзяваны прыбытак не атрымаўся. Эканамічная сітуацыя прымусіла тады рэдакцыю пакінуць сваю адвечную сядзібу, бо не для яе месца побач самых прынцыповых і надзейных рэдакцый. Аднак, не ўсё страчана. Прапаную галоўнаму рэдактару і ягонаму надта бойкаму калектыву выхад з існуючага крызісу. Трэба стварыць дзяжурныя падраздзяленні з двух чалавек, якія „перачэшуць" усе кіёскі ў Беластоку і на Беласточчыне пад лозунгам:

„Праўда так — парнаграфія не
У нашай беларускай «Ніве»"!

Давядуць яны да маральнага самаачышчэння і яўнасці продажу штотыднёвіка.

А тады з асалодаю можна будзе змагацца за сваю шчаслівую і бестурботную будучыню ў суправаджэнні фундаментальных прынцыпаў. І шкада, што ано толькі часам можа праляцець думка: „Ах, каб хаця крышачку пасвінтушыць", — як кажуць палякі.

**Рыгор Падляшскі**

# Абвяржэнні шэфа тэлецэнтра

Надоечы ўсю мясцовую публіку ўсхвалявалі выказванні Казімежа Пуцілоўскага, адзінага ўжо кандыдата на пасаду дырэктара беластоцкага тэлевізійнага цэнтра для штодзёнак „Gazeta w Białystoku" ( н-р 194) і „Kurier Poranny" (н-р 196). З гэтых выказванняў можна было зразумець, што К. Пуцілоўскі супраць няпольскамоўных перадач, паколькі лічыць, што яны дзеляць грамадства.

У размове, якая адбылася 23 жніўня г.г. па жаданні старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы, сп. Пуцілоўскі абвяргнуў згаданыя выказванні ў газетах.

Растлумачыў ён, што наогул не даваў ніякіх інтэрв'ю, а толькі падзяліўся некаторымі сваімі думкамі, не прызначанымі да друку. Гаворачы аб перадачах, меў ён на ўвазе выключна радыёперадачы. Практыка беластоцкага тэлебачання, якое ў меншасных перадачах паралельна змяшчае польскія цітры, поўнасцю яго задавальняе. Гаворачы аб „wejściu na Kresy Wschodnie" меў ён на ўвазе тэхнічныя паслугі для суседніх тэлебачанняў, паколькі ў ягонай канцэпцыі беластоцкае тэлебачанне павінна займець самае высакаякаснае абсталяванне ў Польшчы.

**Алег Латышонак**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# На шляху адраджэння

*(пачатак у папярэднім нумары)*

У Бялках молімся побач вясковых крыжоў. Тамашнія людзі вітаюць нас хлебам. Такія жэсты падмацоўваюць паломнікаў. Узвышаюць яны пачуццё важнасці абранай справы. Айцец **Мікалай Баравік**, духоўны апякун паломніцтва, дзякуе народу за падтрымку ў веры. У Трасцянцы таксама нас сустракаюць. Наехала туды процьма беластачан — бацькоў, сваякоў, сяброў ідучых.

**Лена Добаш**, настаўніца рэлігіі, прыехала, каб прывітацца са сваімі выхаванцамі. У Ласінку яшчэ амаль дваццаць кіламетраў, а па дарозе новыя сустрэчы і малітвы з вернікамі. Каб бліжэй прыгледзецца прывітальным падрыхтоўкам, апярэджваю паломніцтва.

— Кажуць, што тысяча маладых дзяўчат ідзе, — цікавяцца хлопцы з Ласінскага прыхода. Паспелі яны ўжо пабрыцца і апрануцца ў найлепшую вопратку.

У магазінах распрадаліся ўсе посныя тавары. З панадворкаў даносіцца пах смажанай рыбы і пірагоў. Пазней многія будуць успамінаць ласінскіх вернікаў найлепшымі словамі. Маіх спадарожнікаў захапляюць мясцовыя дзеці — яшчэ беларускамоўныя.

* * *

На трэці дзень вандравання ўжо забываеш пра час. Ідзеш і не цікавіць цябе ні дзень, ні гадзіна, ніякія падзеі ў свеце. Ідзеш сабе ў калоне і поўнасцю падпарадкоўваешся волі пастыраў і лідэраў. Ад іх залежыць велічыня твайго кроку, песенны рэпертуар, паводзіны. На трэці дзень вандравання найбольш баляць ногі.

— Тады трэба спяваць духоўныя песні, або ўспамінаць усе свае грахі, — раіць **Ірэна Іванюк**, бібліятэкарка з Беластока.

— А мне хопіць зірнуць на айца Гаўрыіла, — гаворыць спадарожніца Аля, — тады зноў адчуваю ў сабе сілу. **Айцец Гаўрыіл з Супраслі**, душа нашага паломніцтва. Чалавек ён прыступны і сардэчны. Вакол яго заўсёды многа людзей. Маладыя дзяўчаты і хлопцы цалуюць айца Гаўрыіла ў руку на прывітанне. Кожнага дня нястомны айцец чытае свае даклады пра мараль, спакушэнні, секты, сатаністаў. У час гутарак часта пераходзіць на беларускую мову.

Сярод манахаў вылучаюцца сімпатычныя браты з Чэхіі. З адным із іх размаўляю пра чэшскае праваслаўе.

— Раней былі ў нас багаслужбы на славянскай мове, — гаворыць мой спадарожнік, — але тады ў царкву ішлі адны бабулі. Калі ў чэшскай Царкве завялі родную мову, яна памаладзела.

У Навасадах, Дубінах процьма сустракаючага народу. Побач адной крамы стаяць худыя, счарнелыя алкаголікі. Наша паломніцтва ўздзейнічае на іх асабліва балюча. Гэтыя ж нешчаслівыя набываюць набожны выгляд і заліваюцца слязамі. Пазней, калі айцец Гаўрыіл будзе служыць за алкаголікаў і наркаманаў начную малебень, не аднаму ўспомніцца гэтыя хлопцы.

У Гайнаўцы адчуваем магутную падтрымку праваслаўных. Тратуары запоўніліся народам. Дзе-нідзе тамашнія дзеткі пасыпалі нашу дарогу кветкамі. Жанчыны падрыхтавалі шыкарныя застоллі. Дарэчы, па апетыце добра даследаваць этап духовай перамены паломніка. Заангажаваны, шчыры паломнік на трэці дзень вандравання пра яду не думае. Хопіць яму глыток вады, лыжка гарачага супу і кусочак хлеба.

* * *

У Дубічы-Царкоўныя ішлося ці не найбольш марудна. Дарога здавалася бясконцай. Ногі нагадвалі дзве вялікія раны. Спякотнае надвор'е выпаласкала апошнія думкі. Мае спадарожнікі ўжо не спявалі. Нават размовы былі ім не пад сілу. Збітыя дарогай ногі не слухалі тваёй волі. Давялося сунуцца абмежаваным, тупым крокам. Нейкая незразумелая сіла перамяшчала цябе ўперад. У такія моманты спазнаеш магутнасць веры.

— Яшчэ толькі кіламетр, — суцяшалі цябе змучаныя спадарожнікі.

Перад Дубічамі паломніцтва заліло ўсю дарогу. Нават ахоўнікі згубіліся ў моры народу. Тады яшчэ больш адчувалася стома. Наш натоўп нагадваў лагодную чараду. Людзі стапталі





*Айцец Гаўрыіл — душа нашага паломніцтва.*
*Так, як у Ласінцы, нідзе не сустракалі паломнікаў.*

агрэсію, фрустрацыю, асабістыя пажаданні. Ля царквы прарваўся дождж. Многія загаварылі пра цуд.

* * *

Здарожаных журналістаў-паломнікаў прыгарнуў айцец **Славамір Аўксецюк**, настаяцель Дубіцкага прыхода. Па сённяшні дзень не магу забыць арамату ранішняй кавы. У паломніцтве як нідзе спазнаеш цану штодзённых, малых радасцей. З адроджанымі сіламі зноў вандруем набожным шляхам. Зноў радуюць сустрэчы з гасціннымі жыхарамі Грабаўца, Елянкі, Кляшчэляў. У калонах пануе добрая атмасфера, мілагучна льюцца духоўныя песні, здзяйсняюцца сімпатычныя, доўгачаканыя знаёмствы. Ліцэістка **Марта Прыступа**, ахоўніца парадку, прыстае да нашай кампаніі. Дзяўчына гаворыць на беларускай мове. Сама яна родам з Саколкі. Хутка знаходзім супольных сяброў. **Робэрт Савіцкі** з Беластока нясе крыж, на якім віднеюцца словы беларускай малітвы „Магутны Божа”.

— І я ведаю гэту малітву, — гаворыць шаснаццацігадовая **Уля з Чыкага**.

Аказваецца, ведае яна і „Ніву”. Яе беластоцкія сябры **Ева і Андрэй** таксама лічаць сябе беларусамі.

— Бацькі нашы з Сацоў, — гавораць маладыя сябры-спадарожнікі. Іх мілая кампанія дадае надзеі і сілы. На чацвёрты дзень знаходжу журналісцкую дыстанцыю. Спакушаюць мяне іншага роду назіранні. Разам з групай самавольцаў на аўтобусе падаюся ў Жэрчычы. Самавольцы пахавалі свае знакі, дзяўчаты размаляваліся і скінулі хусткі.

— Zatankujemy po piwku? — чую накіраваную ўбок нядаўніх паломніц прапанову прышчатага маладзёна.

— A może na dyskotekę skoczymy do Nurca? — адказвае пытаннем дзяўчына.

Самавольцы пакідаюць аўтобус непадалёк Жэрчыч. Усе яны, як агню, баяцца аховы і Марка Масальскага.

— Bo mogą w Żerczycach nas sprawdzić i wyrzucić z pielgrzymki.

На прыкладзе згаданых самавольцаў назіраю ўплыў групы на паводзіны паломніка. У вандруючых калонах не сустрэнем такіх маладзёнаў. Сімпатычныя, ветлівыя, зычлівыя ў паломніцтве яны. Шасцідзесяцігадовая цётка з-пад Гайнаўкі будзе пазней расказваць сваім аднавяскоўцам, што век пражыла а такой *молодёжы нэ бачыла*. Каб і не закурыў ні адзін, ні брыдкім словам адазваўся. Самавольцы паводзяць жа сябе быццам сарваны з ланцуга сабака. Пазней, у выгадныя для сябе моманты, зноў пераапрануцца ў паломнікаў. Пішучы гэтыя словы, успамінаецца мне пропаведзь айца **Васіля Таранты**.

— Зважайце на свае паводзіны маладыя людзі, — павучаў святар. — Усякія журналісты толькі чакаюць, каб вас абфатаграфаваць і асмяшыць!

Марк Масальскі, галоўны арганізатар, больш стрымана гаворыць пра ўсякія анамаліі.

— Пры такой колькасці людзей як не старайся, усяго не зладзіш. Дарэчы, і ахова — гэта маладыя, нявопытныя энтузіясты.

* * *

Хаця паломніцтва ідзе ў Мілейчычы, па Жэрчычах бадзяюцца многія адшчапенцы. Хуткая дапамога звозіць сюды пакалечаных і хворых вандроўнікаў. На плябаніі не замыкаюцца дзверы. Матушка **Юлія** і айцец **Вячаслаў Дамарадскія** лечаць атручаных ядой беластачанак. І я карыстаюся гасціннасцю матушкі і святара. Пасля падмацоўваючай кавы іду на вёску. У Жэрчычах стрымана гавораць пра паломнікаў. Людзям пераеліся частыя, нялёгкія паслугі.

— Вёска ў нас невялікая, — кажуць мясцовыя людзі, — а па сто чалавек да сябе ўначы прымаем. Добра, як сціплыя людзі завітаюць. А то бывае, што цэлую ноч купаюцца, або папяросы ў клуні смаляць.

Нягледзячы на гэтыя сумненні, усе і так дапамагаюць паломнікам. Мне пашчасцілася заначаваць у спадарства Вольскіх. У гэтай хаце пражываў калісьці карэспандэнт „Нівы” Ян Вольскі. Сустрэча з яго сям'ёй надоўга застанецца ў маёй памяці.

* * *

Рашаю вярнуцца ў Мілейчычы. Так хочацца вандраваць з паломнікамі! Зусім не палохаюць мяне чарговыя кіламетры, напухлыя, параненыя ногі. Маё рашэнне будзе ўзнагароджана цікавай сустрэчай. **Софія Давідзюк**, бабуля з праменнымі, маладымі вачыма, цалуе мяне на прывітанне. Жанчына гэтая з Беластока ідзе басаном з дзвюма сумкамі. Ад яе пачую жудасную, авеяную дастаеўшчынай, гісторыю. Бабуля расказвае пра цуды, якія падарыла ёй вера ў Бога. „Можаш пра гэта напісаць”, — гаворыць мне на развітанне.

З Мілейчыч у Жэрчычы зноў утомны адрэзак шляху. Тут як нідзе многа параненых, адстаўшых паломнікаў. Безупынна падбірае іх хуткая дапамога або грузавікі.

**Катажына Далінская і Анджэй Янэвіч**, дзяжурныя лекары паломніцтва, не менш стомлены за вандруючых. Безупынна наведвае іх хваля паломнікаў.

— Тыя, што сапраўды вымагаюць лячэння, рэдка звяртаюцца за дапамогай, — гаворыць лекарка.

У час паломніцтва найчасцей звяртаюцца да іх маладыя людзі з мазалямі, болем страўніка, вывіхнутымі нагамі.

— Паломніцтвы маюць аднак асаблівую рысу, — гавораць медыкі, — выпадак смяротны ніколі не здарыўся.

У Жэрчычах чую, як маладая паломніца **Вольга з Масквы** каменціруе фізічнае становішча паломнікаў.

— Конечно все кульгают! Але душа ляціць у неба. Дарэчы, начное зорнае неба напамінае мне цёплую, намоленую царкву, у якой хочацца маліцца.

* * *

Апошні адрэзак шляху, з Жэрчыч у Грабарку, мінаем незаўважна. У пачатку ідуць жаўнеры са сваім капеланам **а. Васілём Тарантам**, за імі хлапчукі з крыжамі і харугвамі, жанчыны з іконай, манашкі і святары. Чырвоная група першая ўваходзіць на Святую Гару Грабарку. Паломніцтва завяршаецца балючым ходам вакол царквы на каленях. Тады як ніколі хочацца плакаць. Душа гарыць накіпелымі, раданснымі пачуццямі і малітвай. Пасля гэтага адчуваеш, як на момант перастаюць балець ногі і думкі ўзлятаюць у вышыню. Паломніцтва адмяняе чалавека. Пасля балючага набожнага вандравання, багамольны паломнік адраджаецца. Воблік ягоны ззяе святочнай радасцю і дабрынёй, а думкі залацеюць.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

Якія мы людзі

# У рыштоку

Натоўп каля замкнутай брамкі аднаго з „інтратных” замежных консульстваў быў шэры і пануры. Нейкія неахайныя, брудныя і нябрытыя людзі, што цэлымі месяцамі тырчэлі тут, з надзеяй спаглядалі на глухую жалезную брамку з некалькімі круглымі дзірачкамі.

Прылажыўшы вока да такой дзірачкі, можна было ўбачыць, як набліжаўся стражнік, каб выклікаць некалькі наступных асоб. Кожны думаў: мо і мне сёння пашчасціцца, мо і мяне нарэшце прымуць і аформяць мне выезд на працу, якой так не хапае ў нашай краіне...

Сярод натоўпу круцілася чалавек пяць-шэсць так званых „наганячаў”, платных афарміцеляў віз. Але ў каго б з тых чакаючых былі на гэта грошы! Хто меў, дык даў іх ужо даўно і візу трымаў у кішэні. А, зрэшты... Не кожны ж ведаў, як гэта робіцца. Адным словам, людзі чакалі, а стражнік браў мо па пяць-дзесяць асоб у дзень, ды і то амаль заўсёды ад „афарміцеляў”. Хіба як у іх заставаліся вольныя месцы, дык бралі кагось з натоўпу.

Праўда, была катэгорыя кліентаў консульства, якія мелі не польскія, а замежныя пашпарты, і іх чарга не абавязвала. Не чакалі таксама студэнты, ці тыя, што хацелі залегалізаваць дакументы (шлюб, хрышчэнне і г.д.), а таксама шафёры „Ціраў”.

Якраз падышло двое маладых людзей — хлопец і дзяўчына — з украінскімі замежнымі пашпартамі. Неяк прапхнуліся да брамкі, якую з боку вуліцы „абараняў” ад людзей адзін з тых „афарміцеляў”. Не ведаючы, што тут да чаго, яны звярнуліся да гэтага чалавека — у скуранай куртцы і скуранай шапцы — з просьбай, каб упусціў іх, бо ўчора ім сказалі, што сёння прымуць без чаргі. Чалавек змерыў іх сваім позіркам ад галавы да ног і адвярнуўся. Нават не паліцыў за патрэбнае нешта адказаць ім. Тады яны, наіўныя, пачалі дапытвацца ў іншых. Не чакалі такога прыёму ад братоў-славянаў. Ніхто ім не сказаў **ніводнага добрага слова**. „Вон адсюль! Не перашкаджаць!”— зароў нейкі здаровы дзяцюк. „Што вы тут робіце, у Польшчы?!” — дадаў іншы цікаўны.

Падышоў найхудзейшы і ў найбруднейшым парцяным пінжачку „наганяч” з сівой бародкай: „Прошэн адэйсьць зэ сьродка!”

Усе, зусім як не ў Польшчы, сталі раптам адзінагалосныя. Толькі некалькі неграў стаялі моўчкі, на ўсякі выпадак адышоўшыся крыху далей, на другі бок гэтай невялічкай вулачкі. Разумелі па-польску, але не маглі ўцяміць, што дзеецца.

Натоўп даслоўна азвярэў, абкідаючы сваіх гасцей — украінскіх хлопца і дзяўчыну (мо нават тутэйшых студэнтаў) найбольш прыкрымі словамі. Нават тыя, якія яшчэ нічога не паспелі сказаць, здаваліся гэтым маладым людзям звярамі, бо калі яны адварочваліся, каб глянуць у твар гаворачаму, усе раптоўна замаўкалі: ніхто не хацеў паказаць свой сапраўдны твар, схаваны глыбока ў яго нутры. Кожнаму ўсё ж хацелася выглядаць прыгожа!

Хаця найбольш абураліся прысутнасцю чужаземцаў тыя „афарміцелі”, дык і іншыя не стаялі ўбаку. „З-за вас мы і сёння візы не атрымаем!” — спрабаваў павучаць іх нейкі старэйшы мужчына.

Сівая панюся ў прычосцы „afro” — з чырвонымі губамі і моцнай зялёнай лініяй пад пабляклымі ад часу вачамі — падтрымала яго: „Я, курва, аднаго ўкраінца ўчора тут ледзь голымі рукамі не задушыла! Каб ён быў не ўлез, якраз я магла б візу атрымаць”.

„Занадта многа сабе яны ў нас дазваляюць. Распаношыліся!” — кінуў нехта з натоўпу і цяжка было зразумець, каму гэта суседзі так надакучылі. Кожны меў сваю рацыю. Ад шукаючых працы ўцякала з-пад рук віза, ад „наганячаў” — з кожнай мінутай уцякаў жывы грош, бо лішняя душа не ад іх, што ўвайшла ў консульскі аддзел, гэта была для іх чыстая страта.

Рацыя ў разуменні натоўпу была на баку ўсіх, толькі не тых, хто сапраўды меў гэту рацыю. **Чужаземцаў прымалі без чаргі.**

Невялікая прыгожая вулачкаператварылася такім чынам у рышток, па якім сплывалі ўсе нечысці, што назбіраліся ў душах тых стомленых жыццём людзей. Маладыя людзі з украінскімі пашпартамі скромна стаялі і не гаварылі ўжо ні слова, быццам бы былі вінаватыя ва ўсіх чужых няшчасцях і жыццёвых клопатах. А што ж тут было гаварыць, каму?!

І тут адазваўся на вока інтэлігенцік, пабрыты і падстрыжаны, у чыстай кашулі: „Няма горш, чым тады, калі меншасць хоча быць большасцю!” Адразу было відаць, што дакладна аглядае наша тэлебачанне і чытае газеты.

Ну, і мяне ўзяло за жывое. Кажу: „Калі вам удасца атрымаць візу і вы паедзеце заграніцу, дык заўтра і вы будзеце ў іншай краіне меншасцю. Ці хацелася б вам, каб вас там сустрэлі так, як вы сустракаеце гасцей?..”

Не толькі „інтэлігенцік”, але і ўвесь натоўп як гудзеў, так знерухомеў. Ніхто не адазваўся больш ніводным словам. Хлопец з дзяўчынай глянулі на мяне цёплымі вачыма і ўсміхнуліся. Дзіўна ім было, што ў гэтым рыштоку хтосьці сказаў слова ў іх абарону.

Неўзабаве адчынілі ключом жалезную брамку, і стражнік, як на іронію лёсу, папрасіў перш-наперш гэтых маладых людзей.

Што зробіш, зноў „большасць” мусіла падначаліцца „меншасці”.

**Ада Чачуга**

# Новыя вершы

**Міра Лукша**

* * *

Запалцы запалу хапае,  
Каб паглядзець табе ў вочы,  
А ты ад ветру іх хаваеш,  
І нос, і вусны — курыць хочаш  
Цыгарку горка-араматную,  
Што ўзяў яе абы-якую  
Сярод аднолькавых сястрыц  
І ў муштук яе цалуеш.  
А той запалкай — толькі „пстрык!” —  
І ў цемру шпарка павандрue.  
Агмень ты ўзяў. Чаму ж не чуеш  
Адчайны яе, злосны крык?!  
Ў адной каробцы — столькі болю,  
Шчырасці колькі і агню.  
Ты выпускаеш дым на волю,  
Загледжаны ў душу сваю.

* * *

Мая прастора — у часе,  
які не мае мяжы.  
Таму старасць стагоддзяў  
заціграе мне душу  
халоднай смугой золку,  
і я там цяпер, ды — не я,  
а цяжар рук чыіхсьці  
ляжыць на маіх плячах.  
Ці гэта сяброўскі поціск,  
ці ярмо падзеленае  
на дваіх? На тысячу?  
І дых цёплы чалавека і звяра  
мне песціць спіну,  
марозіць сцюжай смерці,  
якая рассыпала іх косці  
даўно ў карэнне травы і дуба.  
Яна не ведае часу,  
бо смерць сама ёсць час,  
істота, камень і трава.

* * *

Нап'юся я слёз травы,  
Выплачу іх у хмарах,  
Пагрэюся дрэвам жывым  
У полымі не пажару,  
А ў бляску лістоў сырых  
І гарачых крывёю мараў  
Дрэва ўстаць і пайсці туды,  
Адкуль выходзяць рэкі і хмары,  
У вятры, у каменне, у гады,  
Куды птушкі дарогу трымаюць.

* * *

Не трэба нам пытаць замнога.  
Кожны з нас пайшоў сваёй дарогай,  
Бездарожжам, полем ці аблогай...  
Не да майго і не твайго парога.  
Шукалі кожнае мы шчасця незямнога,  
Хоць ведалі — ў жыцці няма такога,  
Хоць верылі — у волю, лёс, у Бога...  
Не трэба ўспамінаць зямнога,  
Бо ў сэрцы рана ўсё гарыць трывогай,  
Што, можа быць, яшчэ жыве дарога  
І словы, што вярнуцца дапамогуць.

* * *

Снег. Зіма. Мароз. Уручча.  
Неба гулкае як звон.  
Зямярзае слоў сугучча,  
Ява снуецца ў сон.

Сноў сузор'е. Смех і слёзы.  
Трубаў енк, жалеза смак.  
Трыццаць градусаў наркозу  
Застывае на губах.

Дом стаіць. Як вежа ў неба.  
Неба зорнае ў душы...  
Думаць мне пра сон не трэба,  
Што пад вейкамі дрыжыць.

Сон... Бяссон. Гурбы паперы.  
І нявысланы той ліст.  
Верш не спіць. Усё на дзверы  
Заваражаны глядзіць.

# Радзіма — Родзіна

**Частка LVII**

Далейшыя фрагменты выказванняў Антона Адамовіча аб Радзіме датычаць лёсу пасляваеннай беларускай эміграцыі. У сувязі з хуткім стрымгаловым наступленнем Чырвонай Арміі ў чэрвені 1944 года, многія беларускія дзеячы з акупаванай немцамі Беларусі пачалі ўцякаць разам з адыходзячымі немцамі. Вынікам гэтай з'явы была шматлікая беларуская эміграцыя ў тых зонах Германіі, якія былі заняты амерыканцамі, англічанамі і французамі. Амаль усе беларускія ўцекачы апынуліся ў лагерах, раскінутых па ўсёй так званай Трызоніі. Савецкія ўлады рабілі ўсё, каб усе беларускія ўцекачы вярнуліся ў Савецкую Беларусь. Здараліся нярэдка выпадкі прымусовай перадачы савецкаму войску беларусаў, якія апынуліся на занятых альянтамі тэрыторыях. Апрача сілавых метадаў, савецкая адміністрацыя з усходняй Германіі пасылала ў заходнія зоны сваіх прапагандыстаў, якія ездзілі па лагерах і пераконвалі ўцекачоў аб добраахвотным вяртанні ў Савецкі Саюз. Якраз на гэту тэму вельмі цікава выказваўся Антон Адамовіч:

„Вядома, што толкам ніхто не ведае, колькі беларусаў папала ў лагеры для ўцекачоў у Заходняй Германіі. Няма сумніву, што былі гэта дзесяткі тысяч людзей. Калі альянты пачалі сілаю выдаваць іх савецкай адміністрацыі, дык часта здараліся выпадкі самагубстваў. Скажам, калі саджалі гэтых людзей на караблі, дык многія кідаліся ў мора і тапіліся, або кідаліся пад колы вагонаў, калі вывозілі іх цягнікамі. Але трэба сказаць, што саветы дзейнічалі не толькі пры дапамозе дзікага прымусу, але таксама прымянялі больш тонкую палітыку. Іх прапагандысты ездзілі па лагерах і пераконвалі людзей, каб вярталіся ў Савецкі Саюз. А пры гэтым стварылі так ідэальную і цудоўную карціну жыцця, што некаторыя з беларусаў, асабліва тыя, што былі вывезены немцамі на прымусовыя работы, вярталіся ў Савецкую Беларусь. Людзі не ведалі, у якое пекла вяртаюцца і якая бяда ды тэрор чакаюць іх на Радзіме. Аднак значная большасць ведала, што іх чакае ў саветаў, і таму цвёрда рашыла аставацца на Захадзе.

І вось аднойчы здарылася нешта небывалае. У лагер, у якім знаходзіўся і я, прыехаў як агітатар за вяртанне на Радзіму славуты савецкі паэт А. К., вядомы ў літаратурным жыцці пад псеўданімам... Нязвыкласць сітуацыі спадара Алеся заключалася ў тым, што ён, як і я, быў у 30-ыя гады арыштаваны і асуджаны на зняволенне. Праўда, яму пашанцавала. Сядзеў ён параўнаўча нядоўга, выйшаў на свабоду і ў хуткім часе стаў прызнаным уладамі і часта друкаваным паэтам. Мой лёс, як вядома, аказаўся іншы. Так ці інакш, мы добра сябе ведалі і нават калі б хацелі, дык, мабыць, не змаглі б сябе ашукаць. І вось гэты А. К. выступіў з палымянай прамовай, у якой прадстаўляў Савецкую Беларусь як родную маці ўсіх беларусаў, незалежна ад таго, якія яны зрабілі памылкі, як заблудзіліся і куды закінуў іх лёс. Паэт-агітатар моцна падкрэсліваў гуманнасць Савецкай Беларусі і даказваў, што кожны, хто вернецца на Радзіму, будзе свабодным чалавекам і што нікому не пагражаюць ніякія рэпрэсіі. Калі ўжо мой А. К. закончыў сваё палкае выступленне, я яго адклікаў набок і гавару яму:

— Скажы шчыра, ці ты гарантуеш, што калі я вярнуся ў Савецкую Беларусь, то ніхто не будзе мяне праследаваць і я змагу працаваць у галіне літаратуразнаўства?

Ну і ведаеце што? Мой А. К. задумаўся, агляннуўся і, упэўніўшыся, што ніхто нас не чуе, адказаў:

— Пытаеш шчыра, дык я табе шчыра адкажу. Нічога я табе не гарантую. Скажу болей, я ўпэўнены, што чакаюць цябе суровыя рэпрэсіі. Не вяртайся!

Вось бачыце, як гэта бывае. У гэтым паэце савецкая машына не здолела знішчыць чалавечнасці. Калі будзеце ў Мінску, зайдзіце да яго і скажыце, што я яго памятаю і што я ўдзячны, за яго шчырасць. Вось на гэта я і ўскладваю надзеі. Веру, што многія беларусы, хаця і прымушаны служыць саветам, не згубілі гарачай беларускай душы. Вось на іх я і ўскладаю надзею на адраджэнне нашай Радзімы.

**Алесь Барскі**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**8 верасня**

1278 г. — Андора аб'яўлена сукняствам пад уладаннем графа Фуа і біскупа Урхель.

1380 г. — у бітве на Кулікавым Полі рускія войскі пад камандаваннем Дзімітрыя Данскога перамаглі татараў.

1474 г. — нар. Лудовіка Арыёста, італьянскі паэт.

1841 г. — нар. Антанін Дворжак, чэшскі кампазітар.

1951 г. — у Сан-Францыска 48 дзяржаў (без СССР і КНР) заключылі мірны дагавор з Японіяй.

**9 верасня**

1828 г. — нар. Леў Талстой, расейскі пісьменнік.

1855 г. — капітуляцыя абложанай англічанамі і французамі расейскай крэпасці ў Севастопалі.

1901 г. — памёр Анры дэ Тулуз-Латрэк, французскі мастак.

1948 г. — у Пхеньяне аб'яўлена паўстанне Дэмакратычнай Рэспублікі Карэі; першым прэзідэнтам стаў Кім Ір Сэн.

1950 г. — прэзідэнт ЗША Трумен аб'явіў аб павелічэнні ўзброеных сіл ЗША ў Еўропе з дзвюх да дзесяці дывізій.

1976 г. — памёр Мао Цэ-дун, кітайскі палітык.

**10 верасня**

1721 г. — перамір'е ў Ністад закончыла другую паўночную вайну між Расеяй і Швецыяй; Расея атрымала доступ да Балтыйскага мора.

1967 г. — у рэферэндуме 12 138 жыхароў Гібралтара выказаліся за брытанскім падданствам, а толькі 44 — за іспанскім.

**11 верасня**

1877 г. — нар. Фелікс Дзяржынскі, савецкі палітык.

1971 г. — памёр Мікіта Хрушчоў, савецкі палітык.

1973 г. — падчас путчу, узначальваемага генералам Аўгустам Пінавчэтам, забіты чылійскі прэзідэнт Сальвадор Альендэ.

**12 верасня**

1683 г. — вызваленне Вены з турэцкай аблогі.

1959 г. — у СССР запушчана *Луннік-2*, які пасля 34 гадзін палёту ўпершыню даляцеў да Месяца і разбіўся аб яго паверхню.

1974 г. — пасля 44-гадовага панавання звергнуты вайсковай хунтай з трона кесар Эфіопіі Хайле Селасіе.

1976 г. — над Японіяй прайшла паветраная труба, у выніку чаго загінула каля сотні чалавек, а 300 тыс. асталося без жылля.

**13 верасня**

81 г. — памёр Ціт, рымскі кесар.

1598 г. — памёр Філіп II, іспанскі кароль.

1788 г. — Нью-Йорк аб'яўлены сталіцай ЗША.

1953 г. — Мікіта Хрушчоў абраны I сакратаром ЦК КПСС.

1960 г. — у Багдадзе заснавана Арганізацыю экспарцёраў нафты (OPEC).

1968 г. — Албанія выступіла з Варшаўскага дагавору.

**14 верасня**

1321 г. — памёр Дантэ Аліг'еры, італьянскі паэт.

1812 г. — напалеонаўскія войскі ўвайшлі ў Маскву.

1849 г. — нар. Іван Паўлаў, расейскі фізіёлаг.

1852 г. — памёр Артур Велінгтан, англійскі палкаводзец, пераможца пад Ватэрлоо.

1917 г. — прэм'ер-міністр Аляксандр Керанскі праклямаваў Рэспубліку Расеі.

**(Ш)**

## ПАРНАСІК

### Ці я беларус

— Ці ты беларус?
— Трудна гэта сказаць.
— Ці ты ўкраінец?
— Не магу таго знаць...
Я над Нарвай радзіўся,
Усё жыццё пражываў.
Мяне ў царкве хрысцілі:
Праваслаўны я — знай.
Бацька, дзед ды прадзед
Тут жыццё правялі,
Абычай ды культуру
Прадаўжаць нам далі.
Трэба гэта ўсім ведаць,
Ды людзям праўду сказаць:
Я ў Польшчы нарадзіўся,
Я — польскі беларус.

**Мікалай Лук'янюк**

### Жыццё

Чароўны свет дзяцінства,
Свет мараў, бабуліных казак,
Дарастанне і маладосць:
Бунт, наша праўда і свет
Ля нашых ног.
Забудзем гэта хутка.
Спеласць нас пранікае.
Мы знайшлі свой куток.
Нашы сямейныя справы.
Нашы дзеці мараць аб шчасці.
Падкралася непрыкметна старасць.
Унукі каля нас. Радасць і шчасце.
Штодзень слабеем. Час ісці ў дарогу
Расказаць Богу пра сваё жыццё.

**Аўрора**

### Сапраўдная пожня

Васіль Сакоўскі — маладзец,
Роднай зямелькі пявец.
Цікавыя яго ўспаміны
Пра вёскі, падзеі, даліны —
„З мінулага маёй сям'і, вёскі,
мясцовасці" —
Дзяцінства і моладасці.
Пішa з вялікім талентам
І не ў галаве яму пенсія-рэнта.
Ён феномен свайго рода
І жыццёвы шлях — не мода,
Але гістарычны факт і аповесць;
Для чытачоў гэта вялікая навасць.
Гэта сапраўдная пожня,
Багатая і ніколі не парожняя.
Ён нікога не абражае —
Сваю беларускую радню паважае.
Дзякую яму за рэдкую памяць,
Чытачам „Нівы" гэта вялікая радасць.
Гэта чалавек геніяльны і рэдкі —
Піша цікава, што чуў і бачыў; ён меткі.
Піша без выдумкі *літарацкай*,
Але дайшоў на ўзровень мастацкі.
Выдаць гэта кнігай чым хутчэй —
Просяць чытачы і падпісаны ніжэй.
Каб наша гісторыя красавала
І ніколі не прапала.
Мелі мы герояў, і то якіх!
Сапраўдных беларусаў сваіх.
Сакоўскі пра гэта піша праўдзіва,
Цудоўна надзіва.

**Мікалай Панфілюк**

### Божа сіла

Сонца ўсходзіць і заходзіць.
Хто прыходзіць, той адходзіць.
Ніхто багацця не забірае.
Што родзіцца, тое памірае.
Бог адкрывае, Бог зачыняе.

### У пушчы

Найперш перад вачыма лес зялёны
маем.
Потым дрэвы вывернутыя аглядаем.
Браць таго права не маем.
Гаёвага шукаем.
А ён у будцы рукі выгравае.
Хтось яму гарэлку налівае.
Што піў, не зможам адказаць.
Зразу нам едзе паказаць,
дзе добры клёцы можна купаваць.
Быццам я да гары належу.
Аглянула страшковую вежу.
Затрымаліся. Я ўжо не госця пана,
а памагаю клёцы класці
ў гаспадара Яна.
А казаў, што хопіць „губка".
Не кладзе сама галубка.
Ганяем коні ўлева, ўправа...
Выцягнулі. Богу слава!

**Мар'я Пень**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, быццам я знаходжуся ў Варшаве, стаю на невялікім панадворку і гляджу на домік, у якім ніби жыве мая родная цётка. З гэтага дома выходзіць мой дваюрадны брат (ён ужо даўно не жыве). Я не магу рашыцца: падысці да яго ці не, і ў той час з гэтага дома выходзяць дзве маладыя жанчыны ў чорных сукенках і чорных хустках на галовах — я іх не ведаю. Ад некага я даведаўся, што памерла мая цётка (яна ўжо даўно не жыве). Уваходжу я ў пакой і бачу сваю цётку, яна ляжыць, нежывая, у труне і ў зложаных на грудзях руках трымае іконку. Труна стаіць насупраць покуці, на якой вісіць ікона, нябожчыца ў труне павернута нагамі ў бок іконы. Я станаўлюся пры труне на калені і гавару малітву — Отча наш, пасля думаю, ці іконку, якую трымае нябожчыца, пацалаваць, але бачу, што ніхто з прысутных гэтага не робіць, дык і я не цалую, мяркую, што пацалую, як будуць з нябожчыцай развітвацца. Устаю з каленяў, падыходжу пад сцяну і пачынаю моцна плакаць. Паплакаўшы, адварочваюся ад сцяны і бачу ў пакоі пару чалавек — усе незнаёмыя і гавораць між сабою па-беларуску. Потым у некага пытаю, дзе цётку будуць хаваць, а нехта адказвае мне, што на камунальных могілках, бо на праваслаўных дорага каштуе месца. На гэтым я і прачнуўся. Што гэта можа быць? **Янка**

Янка! Я думаю, што не здарыцца нічога кепскага. Табе сніліся найбольш нябожчыкі — брат і цётка, і гэта абазначала б, што чакае цябе здароўе і даўгавечча.

Было звычайнае пахаванне цёткі, і гэта абазначала б, што чакае цябе нейкая вясёлая справа, а не трагедыя. Тым больш, што ты на гэтым пахаванні парадкам выплакаўся — што прадвяшчала б сямейную радасць.

**Астрон**

## Заўвага да „Ad vocem"

Глыбокапаважаная Рэдакцыя, памыляцца — людская справа, бо не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць, — гэта зацухмоленая фраза. Аднак дрэнна памыляцца тады, калі абавязкова хочацца даказаць камусьці сваю рацыю і „далажыць" яму.

Справа ў тым, што я ў сваім „Ad vocem" („Ніва" н-р 27 з 1996 г.) пакарыстаўся часам будучым, гаворачы: „Ты поймёшь меня друг, ты поймёшь", а Вы, Рэдакцыя, ужылі час цяперашні, каб мяне дыскрэдытаваць, напісаўшы: „А мы всё-таки не поняли..." Я ж Вас не пытаў, ці Вы зразумелі, а толькі сцвердзіў, што зразумееце. І зразумееце. Магчыма, што я гэтага не дажыву, але Вы і мяне калісьці ўспомніце з той горыччу, што не паверылі. Дай Божа, каб я памыляўся. Але memento mori!

**Васіль Петручук**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | · | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. горад між Смаленскам і Масквой, 3. горад у Джунгарыі, 5. на дрэве, 7. сталіца Ганы, 9. скандынаўская быль, 10. велічыні, якія вызначаюць месцазнаходжанне пункта ў прасторы, 11. французскі фізік (1819—68), 12. орган мясцовага самакіравання, 14. горад між Барселонай і Сарагосай, 16. Паўночная і Паўднёвая над Місуры, 17. спартыўная цяжкаатлетычная прылада.

**Вертыкальна:** 1. супернік Дон Кіхота, 2. дзяржава на захадзе Афрыкі, 3. між перапынкамі, 4. горад у ЗША, 6. сям'я італьянскіх майстроў смычковых музычных інструментаў, 8. стыль у мастацтве, 9. высмейванне, 11. горад і рака ў Нямеччыне, 13. шлях, 14. рака забыцця, 15. рака на захадзе Пакістана.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 29 н-ра:** мячэць, Эліста, сірэна, экстаз, Эльзас, эталон, кабарэ, сакрэт, Рэнуар, Уондэр, Джэрсі.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.




„Niwa"
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Ніўка

## Пародыі

### Любіцель аўтографаў

*А на сустрэчах свае кніжкі*
*Падпісваў я, як памятаю,*
*Надзеям, Верам, Васям, Мішкам,*
*Сяргеям, Толям, Мікалаям...*

**Віктар ШВЕД**

Падпісаў я кніжку Васі,
Насці, Веры, Колі, Стасі,
Ёлі кніжку падпісаў
І кахання пажадаў.
Падпісаў я кніжку Пеці,
Ніканору, Іры, Свеце,
Святаславу падпісаў
І нічога не сказаў.
Падпісаў я кніжку Ніне,
Герасіму, Але, Зіне,
І Арцёму пару слоў
Падпісаў — і будзь здароў.
Падпісаў я кніжку Нане,
Зосі, Іне, Ліліяне,
І Сяргею падпісаў,
Ды настрою пажадаў.
Падпісаў я кніжку Фролу,
Фёкле, Сідару, Антону.
Два экспромціка Луку —
Цалаваў маю руку.
Падпісаў я кніжку Улі,
Купрыяну і Ганулі,
Атрымаў нат Расціслаў...
І... сабе я падпісаў.

**Сяргей Чыгрын**



*„Вожык"*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сямейная сварка:

— Калі толькі памрэш, адразу выйду замуж за другога! — крычыць жонка.

— А што мне за справа да нешчаслівай, якога не ведаю, — адказвае муж.

* * *

— Зблудзіла я, вялебны ойча, — прызнаецца пажылая жанчына падчас споведзі.

— У тваім, дачка, узросце, гэта немагчыма.

— Гэта здарылася трыццаць гадоў таму...

— Дык чаму ж толькі цяпер прызнаешся?

— Бо так прыемна паўспамінаць.

* * *

Прыходзіць юнак на вяселле:

— Вы, можа, малады?

— Не, я выбыў у чвэрцьфінале.

* * *

Цяжка хворая жонка да мужа:

— Прысягні, што пасля маёй смерці твая другая жонка не будзе апранацца ў маю адзежу...

— Ну, што ты, каханая! Будзь спакойная: яна і худзейшая, і вышэйшая за цябе.

* * *

— Калі з табою жаніўся, тады я быў поўны ідыёт!

— Гэта праўда! А я, дурная, была так закаханая, што нават гэтага не заўважыла.

* * *

У судзе:

— І нічога вы, пані, не падазравалі, калі ішлі з падсудным у цёмны парк? — пытае суддзя.

— Падазравала, але не падумала, што калі скончым справу, ён забярэ мне сумку.

* * *

— Купіла я табе вадкасць ад выпадання валасоў, — гаворыць жонка мужу.

— Мне валасы не выпадаюць...

— Але тваёй сакратарцы так.

* * *

— Мамачка, чаму крычыш на татку?

— Бо ён ідзе выбіваць дыван.

— Ты ж сама яго пра гэта прасіла...

— Ён лепш выбівае, калі злосны.

* * *

Жыццё мужчыны было б цудоўнае, калі б, пападаючы ў абдымкі жанчыны, не пападаўся ёй у рукі.

## Жаніцьба іншапланецяніна

Пра тое, што Маня зацяжарыла ад іншапланецяніна, Сцяпану расказала яе маці — прыбітая горам Аўдоцця:

— Ой, Сцяпанка, і нацярпелася ж бедная Маня ў тую ноч. Спачатку, кажа, бы полымя ўспыхнула на двары... Потым закалыхаліся фіранкі і чорнай маланкай хтосьці як сігане праз акно і — прама ў ложак! Яна анямела, нават крыкнуць не змагла. Цяпер во плача, бедная...

Сцяпан у цуд не паверыў, але слухаў старую ўважліва і нават паспрабаваў супакоіць:

— Мо гэта знак які? І тады не плакаць, а радавацца трэба?

— Якая ж тут радасць? І што рабіць цяпер?..

— Замуж трэба Мані выходзіць.

— Хто ж яе, галубок, возьме такую?

— Знойдзецца чалавек, які возьме, — упэўнена сказаў Сцяпан. — Гэта я вам абяцаю. Адным словам, чакайце ў суботу сватоў. Ваш клопат — рыхтаваць добрую вячэру, каб усё было як на „дзяды".

— Ды пастараемся, Сцяпанка, — весялей загаварыла Аўдоцця, — дзякаваць Богу, ёсць што на стол паставіць.

Сцяпан ведаў, што „іншапланецянін" — гэта кінамеханік Андрэй Касмыль, які ўпотай ад Аўдоцці ўсё лета пасвіўся каля Мані, а потым з'ехаў з вёскі. Дзён колькі таму Сцяпан бачыў яго ў суседнім гарадку, дзе той уладкаваўся на працу ў нарыхтоўчай канторы.

Суботнім ранкам Сцяпан зайшоў да свайго сябра Івана Шупліка:

— Запрагай, браце, „Масквіча" — пракоцімся ў горад.

— Па якой патрэбе?

— Раскажу па дарозе...

Касмыль не чакаў гасцей і на пачатку збянтэжыўся, калі хлопцы заявіліся да яго на кватэру. Але хутка ўзяў сябе ў рукі і зрабіў выгляд, што вельмі ўзрадаваўся:

— Каго я бачу! Якім ветрам? Сядайце! Можа, па шклянцы? Ці вы спяшаецеся?

— Спяшаемся, — адказаў Сцяпан. — Апранайся. Праедзем тут, недалёка. Трэба твая дапамога...

Касмыль адмовіцца не змог. Калі селі ў машыну, ён пачаў распытваць:

— Якія ў вас навіны, дарагія землякі? Чым жыве родная вёска?

— А як там у нязведаных галактыках? — перабіў яго Сцяпан. — Калі чакаецца нашэсце гуманоідаў?

— Не разумею! — насцярожыўся Касмыль.

— Усё ты добра разумееш! Нашкодзіў — ды ў хмызняк!.. А хто дзіця будзе гадаваць? Марсіяне?

— Якое дзіця? Ты што? Чапляешся? Гэта парушэнне правоў чалавека!

— Вось як!.. Правы чалавека ўспомніў...

Дыскусія аб правах чалавека працягвалася з паўгадзіны. Нарэшце, быў знойдзены кансэнсус. Касмыль здаўся:

— Ды я што? Я не супраць... Гэта Маня, баючыся маці, напляла пра іншапланецяніна... А я хоць сёння...

— Менавіта сёння ўладзім усё, — падвёў рысу Сцяпан.

... Вечарам у хаце Аўдоцці спраўлялі запоіны.

**Аляксей Каўко**

## Сардэчныя тайны

Маю я, Сэрцайка, клопат. Нібы павінен я цешыцца. Дзеўку ўзяў цудоўную, такую, вакол якой заўсёды быў мужчынскі карагод. Усім хлопцам яна падабалася, дык чаму ж мела не спадабацца і мне! І меў я яшчэ падставы, каб ганарыцца. Усё ж такі з усёй чарады старых і маладых кавалераў яна выбрала мяне!

На вяселлі ў вачах многіх маіх сяброў я бачыў сум, а адзін дык дават расплакаўся. Мне тады было смешна. А сёння я і сам гатоў выць з болю.

Уяві сабе, пражылі мы ўсяго пяць гадоў, а шмат чаго ў нашым жыцці змянілася радыкальна. Мае сябры ўжо таксама пажаніліся і сёння жывуць прыпяваючы. Я ім не зайздрошчу гэтага, бо і нам паводзіцца някепска. Ёсць ужо і дзіцятка, цудоўная дзяўчынка. Цешча яе даглядае. Мы з жонкай працуем і маем час пайсці ў госці, на забаву, на імяніны, паехаць на вёску на свае свята.

Калі мы бываем у кампаніі, мне ўжо сёння, аднак, не так весела, як калісьці. Не, не таму, што мая жонка, як за паненскіх часоў, з усіх бакоў абстаўлена мужчынамі. Да гэтага я ўжо даўно прызвычаены. Мучыць мяне ад нейкага часу цалкам іншае пытанне. Менавіта: чаму мая жонка перастала мяне раўнаваць да іншых жанчын. Ну, зусім незайздросная, дальбог. Рабі што хочаш, а ёй усё роўна.

А пагляджу я на іншых, дык сум агортвае маю душу. Аднаму яговая жонка нават позірку ў бок іншай жанчыны не дарые, другога ўвесь час яго палавіца дакарае ў нечым, з трэцім часам аж пакалоцяцца, яна яму прынамсі па мордзе лясне, а ў мяне — ціпыня.

А я ведаю, як гэта бывае пасля ўсяго такога. У першыя гады і ў нас так бывала. Нельга мне было нават глянуць у іншы бок. Адразу заўважыла і не даравала. Сварка, слёзы, папрокі. Затое пасля... Пасля, у хаце, было адно вялікае каханне, а сіла нашых пачуццяў узрастала па меры таго, як моцна мы пасварыліся. Мой дзядзька, гледзячы калісь на нас, сканстатаваў: „Каханне, братка, яно такое". І я зразумеў, што ўсе яе прэтэнзіі да мяне вынікалі з глыбокага пачуцця.

А вось цяпер ціпыня. Я магу на забаве танцаваць цэлы вечар з нейкай дзяўчынай, а яна толькі цешыцца. Вызвалілася ад мяне?! Маё сэрца кроўю абліваецца, калі — яшчэ не паспеюць зайграць — а яе ўжо запрашаюць і яна ідзе танцаваць, не пытаючыся ў мяне.

Я заўважаю, што сам раблюся смешны ў вачах іншых. Вядома, не таму, што маю жонку бяруць да танца першую, а таму, што я пасля не магу прыйсці ў сябе ад злосці. Толькі пазней, калі падап'ю крыху, бяру нейкую дзяўчыну і гуляю, бо да жонкі маёй не дойдзеш.

Адным словам, скажу табе па шчырасці: замест таго, каб баба лётала за мужыком, у нас выходзіць якраз наадварот, бо я лётаю за ёю. Я нават пагаварыў з дзядзькам. А ён мне і кажа: „Калі перастала быць зайздроснай, значыць, мае каханка". І гэтым сцвярджэннем дзядзька зусім прыбіў мяне.

Скажы, Сэрцайка, ці гэта можа быць праўда? Дзядзьку свайму я дагэтуль веру. У яго ў сардэчных справах немала вопыт. Што ж мне, беднаму, рабіць?

**Андрушка**

Андрушка, даражэнькі! Перш за ўсё — не складаць зброі. Твой дзядзька можа мець рацыю, быццам у яе завёўся каханак. Можа ён нават гуляе на той жа забаве. Сапраўды ў такім выпадку яна мае за каго біцца, а ты ж ужо і так належыш да яе.

А чаго ж дзівіцца, калі ты мусіш аж выпіць, каб запрасіць на забаве нейкую дзяўчыну?! Можа варта нешта зрабіць, каб і ёй стала моташна, ды каб зразумела, што муж з яго каханнем не дадзены ёй на вечнасць. Мо тады нешта ў яе псіхіцы пераставіцца.

А што датычыць забавы, дык у кругу бліжэйшых знаёмых і сяброў не абавязкова пытацца ў мужа дазволу, ці запрасіць яго жонку на танец. Маецца на ўвазе, што і так ён у гэтым не адмовіць. Іншая справа — калі гуляеце ў шырэйшай кампаніі, дзе не ўсе добра знаёмыя. Тады выпадае запытацца.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015